

# З Днём вызвалення!


# Рэгіянальная газета.

Rh.by

rg_rhby

rh_by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

2 ліпеня 2021 года №27 (1366)

18+


# Што рабіць, каб хутчэй ачуняць пасля каранавіруса

**Рэкамендацыі ад доктара-рэабілітолага Вілейскай ЦРБ**

старонка 5

Фота Настассі УТКІНАЙ.



**Малымі сіламі і невялікімі стратамі.** Прыгадваем, як летам 1944 года вызвалялі Вілейку

старонка 8

**Віляйчук дырыжыраваў дзяржаўным аркестрам Украіны ля сцен Вярхоўнай Рады**

старонка 2

**Арт-аб'екты са смецця і іншыя ідэі, як зрабіць лад жыцця больш экалагічным**

старонка 19

**Чаму Ядвіга Раздзялоўская любіла маляваць сіні цень**

старонка 18


ISSN 1991–7155





Адсканууйце QR-код, каб перайсці на наш сайт **rh.by**



## Абяцаюць новыя спецыяльнасці ў каледжы і занятасць вілейчукоў

ВІЛЕЙКА

У Вілейскім раёне плануюць стварыць вытворчы навукова-адукацыйны кластар – адзіную сістэму бесперапыннай адукацыі ад школы да вытворчасці. Распрацавалі адпаведную дарожную карту, разлічаную на 2021-2025 гады. Пра гэта паведаміла намеснік старшыні Вілейскага райвыканкама па эканоміцы **Марына Вазняк** падчас круглага стала ў прэс-цэнтры БЕЛТА.

Раён не вельмі вялікі – каля 48 тысяч чалавек у 405 населеных пунктах. З галоўных рэсурсаў, якія можна лічыць кропкай росту, – Вілейскае вадасховішча. А таксама кадры прафесіяналаў і магчымасці для іх падрыхтоўкі.

– Распрацаваная дарожная карта супрацоўніцтва па стварэнні вытворчага навукова-адукацыйнага кластара ў Вілейскім раёне на аснове высокатэхналагічных, экалагабяспечных, навукаёмістых і ІТ-тэхналогій. Гэта супрацоўніцтва паміж Вілейскім райвыканкамам, Беларускім дзяржаўным тэхналагічным універсітэтам і Беларусбанкам. Карта прадугледжвае рэалізацыю мерапрыемстваў у 2021-2025 гадах. Усяго ў ёй размешчаны 28 праектаў рознай скіраванасці – закранутыя ўсе галіны, – распавяла Марына Вазняк.

Нават пры рэалізацыі паловы ўсяго задуманага і выкладзенага ў дарожнай карце, у Вілейскім раёне з'явяцца новыя спецыяльнасці ў мясцовым каледжы, новыя напрамкі дзейнасці з выкарыстаннем мясцовых рэсурсаў.

– Гэта дазволіць забяспечыць занятасць нашых жыхароў, – сказала на заканчэнне Марына Вазняк.

Акрамя таго, нядаўна мясцовыя органы ўлады правялі апытанне жыхароў пра тое, чаго не хапае бізнесу раёна. Падрыхтаваны зводаналіз, які дазволіў вызначыць прыярытэтныя напрамкі развіцця: турызм, прамысловасць і сельскае прадпрымальніцтва.

**Паводле БЕЛТА.**

## Маладзечанскі раён – другі на Міншчыне па колькасці медалістаў

МАЛАДЗЕЧНА

Пра гэта сказала начальнік аддзела дашкольнай, агульнай сярэдняй, прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі галоўнага ўпраўлення па адукацыі Мінаблвыканкама **Алена Марцінкевіч**.

**Па яе словах, найбольш на Міншчыне медалістаў у Салігорскім, Маладзечанскім, Барысаўскім, Слуцкім, Мінскім і Дзяржынскім раёнах.**

Нагадаем, што сёлета ў выпускнікоў Маладзечаншчыны 64 медалі: 62 – залатыя і два – сярэбраныя.

**Паводле БелТА.**

## 3 ліпеня будзе салют

ВІЛЕЙКА

Гэта адбудзецца на цэнтральнай плошчы Вілейкі ў 22:55, паведамляюць у Палацы культуры.

Увогуле святочныя мерапрыемствы пачнуцца ў Вілейцы ад 2 ліпеня. У гэты дзень ад 18:00 да 19:30 зладзяць канцэртныя праграмы ў мікраёне «Зеніт» і на Касманаўтаў.

3 ліпеня ў 11:30 пачнецца мітынг на плошчы Свабоды. Потым будзе ўрачыстае шэсце працоўных калектываў і парад тэхнікі. Далей запланаваныя канцэртныя праграмы.

Дыскатэка пачнецца пасля салюту, у 23:05, на цэнтральнай плошчы.

4 ліпеня ў гарадскім парку разгорнецца горад майстроў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Смаргонцы атрымалі медалі «За працоўныя заслугі»

СМАРГОНЬ

Указ аб узнагароджанні падпісаны 28 чэрвеня. Сярод узнагароджаных медалём «За працоўныя заслугі» ёсць прадстаўнікі Смаргоншчыны:

**Анатоль Казакоў** – кіраўнік фермерскай гаспадаркі «Казакоў»;

**Валянцін Чырыца** – дырэктар камунальнага ўнітарнага прадпрыемства «Смаргонская райплемстанцыя».

**Паводле president.gov.by.**

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ




Падчас дырыжыравання сімфанічнай паэмы «Мазепа».

Фота забяспечана героем публікацыі.

# Віляйчук выступаў у Кіеве на канцэрце да Дня Канстытуцыі

ВІЛЕЙКА

**28 чэрвеня ўраджэнец Вілейкі музыкант Віталь Алексяёнак, які жыве ў Германіі, дырыжыраваў Дзяржаўным сімфанічным аркестрам ля Вярхоўнай Рады ў Кіеве. Тут адзначалі Дзень Канстытуцыі.**

Мы паразмаўлялі з Віталем пра яго ўражанні ад мерапрыемства перад адлётам у Берлін, дзе Віталь жыве ўжо некалькі год.

– Прапанову паўдзельнічаць у канцэрце я атрымаў ад аркестра. Мы з імі будзем супрацоўнічаць далей з адным вялікім оперным праектам у Германіі ўвосень. Але ўчора быў мой дэбют з імі, – расказаў музыкант.

Віталь падзяліўся, што дырыжыраваць новым аркестрам упершыню – гэта заўсёды цікавы досвед. Ніколі не ведаеш, якім ён будзе.

– Але наша супраца атрымалася вельмі плённай, – працягвае Віталь. – Мы знайшлі добры і цёплы кантакт адзін з адным. Я дырыжыраваў сімфанічную паэму Ферэнца Ліста «Мазепа». І тут шмат сімвалаў: я жыў каля дома Ліста ў Веймары некалькі год. А Мазепа быў паплечнікам **Піліпа Орліка**, які напісаў першую ўкраінскую Канстытуцыю.

А Піліп Орлік быў з Вілейшчыны, як і я. Гэта вельмі цікавая сувязь.

28 чэрвеня Віталь выступаў у сарочцы белага і чырвонага колераў, пашытай украінскім дызайнерам адмыслова для канцэрта. Сарочка, на думку дырыжора, таксама сімвал:

– Ініцыятыва пашыць падобную сарочку была мая, але менеджмент аркестра мне ва ўсім дапамог: прапанавалі дызайнера, усё абмеркавалі і нават падарылі мне гэту сарочку за кошт аркестра. Значыць, ім таксама гэты сімвал важны і яны салідарныя са мной і з усімі вольнымі беларусамі.

Нагадаем, што Віталь Алексяёнак ужо быў героем нашых публікацый. У красавіку мы пісалі пра тое, што ў Германіі ён выдаў кнігу аб пратэстах на радзіме **«Белыя дні Мінска. Нашы мары пра вольную Беларусь»**. Яе першай чытачкай стала пісьменніца Нобелеўская лаўрэатка **Святлана Алексіевіч**.


Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Ва Украіне пакажуць арыгінал першай Канстытуцыі

## Яе аўтарам быў ураджэнец Вілейшчыны

**Ва Украіне 28 чэрвеня адзначылі 25-гадовы юбілей Асноўнага закона краіны і ўшанавалі аўтара першай у свеце Канстытуцыі Піліпа Орліка, які нарадзіўся ў Беларусі, у Касуце Ашмянскага павета (цяпер Вілейскі раён).**

Піліп Орлік быў генеральным пісарам і даверанай асобай гетмана **Івана Мазепы**.

Прэзідэнт Украіны **Уладзімір Зяленскі**, выступаючы на ўрачыстым пасяджэнні парламента, прысвечанаму Дню Канстытуцыі, заявіў, што сёлета ўкраінцы змогуць пабачыць арыгінал Канстытуцыі Піліпа Орліка. Зяленскі лічыць несправядлівым, што за ўвесь час пасля аднаўлення незалежнасці Украіны яе грамадзяне ніколі не бачылі арыгінал гістарычнага дакумента, які захоўваецца ў Нацыянальным архіве Швецыі.

«Да 30-годдзя нашай Незалежнасці, упершыню за 311 гадоў, ва Украіну прыбудзе арыгінал Канстытуцыі Піліпа Орліка. Яго разам з булавой гетмана Піліпа Орліка і гетмана Івана Мазепы ўсе ахвотныя змогуць пабачыць у Сафійскім саборы», – паведаміў прэзідэнт Украіны.

У 2017 годзе Украіна і Беларусь супольна адзначылі 345-годдзе гетмана Піліпа Орліка.

**Паводле Радыё СВАБОДА.**




Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Сярод прапанаваных заробкаў у Смаргоні ёсць нават 1300 рублёў.

# Якую працу можна знайсці ў рэгіёне і якія грошы атрымаць

СМАРГОНЬ
АШМЯНЫ
АСТРАВЕЦ

**Разгледзім прапановы працы ад арганізацый Смаргоні, Ашмянаў і Астраўца, што з'явіліся ў апошнія дні на сайце Дзяржаўнай службы занятасці.**

### Астравец. Патрэбныя кадры ў аўтапарк, ЖКГ, гаспадаркі

Вакансіі ад ЖКГ наступныя. Рабочы па абслугоўванні ў лазні. Заробак – ад 400. Грузчык. Прапануюць ад 500. Слесару аварыйна-аднаўленчых работ – ад 600.

У гаспадаркі ў Гервятах і Варнянах патрэбныя паляводы. Заробак – ад 500. У Астравецкі раённы цэнтр для забеспячэння дзейнасці ўстаноў адукацыі – інжынер па эксплуатацыі і рамонце будынкаў. Абяцаюць ад 800.

У мясцовы аўтапарк №4 возьмуць прыбіральшчыка. Заробак ад 400. Кіроўцы аўтамабіля тут жа заплацяць ад 450, а з катэгорыяй «D» – ад 750. Сюды ж патрэбныя фельчар з заробкам ад 500 і слесар па рамонце аўтамабіляў – ад 450.

Некалькі вакансій ад мясцовага прадпрыемства меліярацыйных сістэм. Гэта бухгалтар, эканаміст, тэхнік па ўліку, трактарыст, інжынер. Трактарысту, эканамісту і бухгалтару прапануюць ад 800. Астатнім крыху менш.

### Ашмяны. Найбольшы заробак – міліцыянеру ў Дэпартаменце аховы

Тут шукаюць вартаўнікоў, кантралёраў на КПП на паўстаўкі і стаўку, электраманцёраў, начальніка, загадчыка гаспадаркі з досведам працы, электраманцёра па ахоўнай і пажарнай сігналізацыі, міліцыянера ва ўзросце да 28 гадоў, які адслужыў у войску, у Дэпартамент аховы. Найбольшы заробак прапануюць міліцыянеру – ад тысячы, загадчыку гаспадаркі – ад 900. Астатнім у межах 450-700.

Некалькі вольных працоўных месцаў прапануе раённая бібліятэка: рабочы па абслугоўванні і рамонце будынкаў – ад 411. Бібліятэкары – адзін у Ашмяны, другі – у аграгарадок Кракоўка. Заробкі – ад 452 і ад 491 адпаведна. Сюды ж возьмуць аператара капіравальных машын – чалавека, які будзе рабіць ксеракопіі. Заробак – ад 411.

У райвыканкам патрэбны галоўны спецыяліст. Заробак – ад 915. У Жупранскі яслі-сад возьмуць загадчыка. Прапануюць ад 542.

Завяршаюць спіс прапановы ад гандлёвай сеткі «Еўраопт». Сюды патрэбныя кантралёр-касір, прадавец і загадчык. Заробкі ў межах 650 – 850.

### Смаргонь. Ёсць заробкі 1000 і 1300

Спіс вакансій прапануе гандлёвая сетка «Дабраном»: прыбіральшчык, два кантралёры-касіры, адзін з іх старшы, загадчыкі аддзелаў рознічнага гандлю, грузчык і дырэктар. Заробкі – у межах 470-700. Толькі дырэктару – ад 1300. Падобныя кадры патрэбныя і ў «Еўраопт». Заробкі амаль роўныя. Толькі ў «Еўраопт» возьмуць яшчэ і прыёмшчыка заказаў. Прапануюць ад 600.

На агрэгатны завод патрэбны токар. Абяцаюць ад 650. Кладаўшчыку, эканамісту і слесару там жа – ад 550. На філіял №7 «Смаргоньсілікатабетона», што знаходзіцца ў вёсцы Міхневічы Залескага сельсавета, возьмуць кантралёра будаўнічых матэрыялаў і вырабаў. Заробак – ад 600.

У Смаргонскую гімназію патрэбны рабочы. Заробак – ад 411. У Сольскую школу – кіроўца. Заробак – ад 700. У будаўнічай арганізацыі чакаюць інжынера і арматуршчыка. Абяцаюць ад 800 і ад 700 адпаведна.

Лесніку ў лягсасе заплацяць ад 700, стропальшчыку – ад 800, вальшчыку лесу – ад 850, машыністу лесанарыхтоўчай машыны і ўкладчыку драўніны – ад тысячы кожнаму.

ЖРЭС шукае пашпартыста. Заробак – ад 510. У дзіцячы аздараўленчы цэнтр «Лясная паляна» возьмуць афіцыянта. Заробак – ад 660 рублёў.

У гандлёвы дом «Лагуна» шукаюць грузчыка. Разгледзяць толькі тых кандыдатаў, якія дысцыплінаваныя і не маюць негатыўных запісаў у працоўнай кніжцы. Прапануюць ад 700.

Шмат вакансій ад ЖКГ. Гэта кіроўца, прасаўшчык другаснай сыравіны, слесары па кантрольна-вымяральных прыборах, электраманцёры, трактарыст, прыбіральшчык, слесар аварыйна-аднаўленчых работ, машыніст аўтагрэйдара. Найбольш атрымаюць слесары па кантрольна-вымяральных прыборах – ад 920. Найменш прасаўшчык – ад 505 рублёў.

Падрыхтавала
Аксана ЯРАШОНАК.

**ЛІЧБА НУМАРА**

**305 508**

Столькі маладых людзей жыло ў сельскай мясцовасці на 1 студзеня 2021 года.

Паводле Белстата.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 24.06 | 1.07 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.5362 | 2.5324 |
| Еўра | 3.0260 | 3.0116 |
| Злоты, 10 | 6.6991 | 6.6682 |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4903 | 3.4707 |
| Грыўня, 100 | 9.3006 | 9.2971 |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 23.06 | 30.06 |
| Еўра | 2.9800/3.0600 | 2.9750/3.0550 |
| Долар ЗША | 2.5000/2.5800 | 2.5000/2.5800 |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 23.06 | 30.06 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 22,90 | 22,90 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 4,25 | 4,25 |
| Сасіскі, 1 кг | 7,87 | 7,87 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | 9,00 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,50 | 4,50 |
| Селядзец, 1 кг | 6,90 | 6,90 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 18,90 | 18,90 |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,50 | 2,50 |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | 2,40 |
| Алей, 1 л | 4,20 | 4,20 |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | 4,80 |
| Маянэз, 400 г | 2,60 | 2,60 |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,80 | 1,80 |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 2,00 | 2,00 |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,40 | 2,40 |
| Агуркі, 1 кг | 1,40 | 1,20 |
| Баклажаны, 1 кг | 5,50 | 5,50 |
| Бульба маладая, 1 кг | 2,50 | 2,00 |
| Буракі, 1 кг | 2,00 | 1,00 |
| Капуста маладая, 1 кг | 1,40 | 1,40 |
| Морква, 1 кг | 1,50 | 1,40 |
| Памідоры, 1 кг | 4,50 | 3,90 |
| Перац, 1 кг | 9,50 | 8,50 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,50 | 1,30 |
| Часнок, 1 кг | 7,00 | 6,90 |
| Шампіньёны, 1 кг | 6,00 | 5,50 |
| Абрыкосы, 1 кг | 8,50 | 7,50 |
| Апельсіны, 1 кг | 5,00 | 5,00 |
| Бананы, 1 кг | 3,90 | 3,90 |
| Вінаград, 1 кг | 8,00 | 7,50 |
| Грушы, 1 кг | 4,90 | 3,50 |
| Дыня, 1 кг | 5,00 | 5,00 |
| Кавуны, 1 кг | 3,00 | 3,00 |
| Клубніцы, 1 кг | 2,70 | 2,60 |
| Лімоны, 1 кг | 5,50 | 5,50 |
| Нектарыны, 1 кг | 7,00 | 7,00 |
| Слівы, 1 кг | 12,00 | 10,00 |
| Чарэшні, 1 кг | 8,50 | 7,50 |
| Яблыкі, 1 кг | 2,50 | 2,30 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,70 | 1,70 |
| Масла, 1 кг | 18,00 | 18,00 |
| Сала, 1 кг | 13,00 | 13,00 |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | 14,00 |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | 8,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | 4,00 |

## Жанчыны заблукалі ў лесе і правялі там ноч

**МАЛАДЗЕЧНА ВІЛЕЙКА**

Пра тое, што 28 чэрвеня жанчыны 57 і 49 гадоў згубіліся ў лесе, 29 чэрвеня раніцай паведаміла прэс-служба МНС. На гэты час заблукалых знайшлі. Падрабязнасці расказаў старшы оперупаўнаважаны крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС **Віталь Паслед:**

– Жанчыны прыехалі на Слабадское возера з Маладзечаншчыны. Увечары яны пайшлі ад возера ў вёску Іжа.

> Калі ішлі назад, заблукалі. Магчыма, хацелі скараціць шлях. А сцяжын там шмат, вось і паблыталі.

У лесе яны правялі цэлую ноч. На пошукі выязджалі работнікі РАНС і РАУС Вілейкі. Каля 8:00 мне паведамілі, што заблукалых знайшлі выратавальнікі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Патанула дзевяцігадовая дзяўчынка

**ВАЛОЖЫН**

Увечары 23 чэрвеня каля вёскі Дружылы патанула дзевяцігадовая дзяўчынка.

Каля вадаёма дзяўчынка адпачывала разам з сям'ёй. Падчас купання яна пачала тануць, аднак выратаваць дзіця не змаглі. Дзяўчынку без прыкмет жыцця з вады досталі супрацоўнікі МНС.

Па факце Валожынскі раённы аддзел Следчага камітэта праводзіць праверку.

**Паводле Следчага камітэта.**

## У Хажове гарэла летняя кухня

**МАЛАДЗЕЧНА**

24 чэрвеня ў 2:29 у цэнтр аператыўнага кіравання Маладзечанскага ГРАНС паступіла паведамленне пра пажар па адрасе: Хажова, вуліца Гагарына.

Па прыездзе падраздзяленняў ратавальнікі ўстанавілі, што пажар здарыўся ў драўлянай летняй кухні. Агонь знішчыў дах, пашкодзіў маёмасць і сцены. Прычыну высвятляюць, паведамілі ў ГРАНС Маладзечна.

– Будынак гарэў вельмі гучна, на ўсю вёску. Нават неба было чырвонае, – паведаміў нам сведка.

**МНС папярэджвае:** прычынай многіх надзвычайных сітуацый з'яўляецца безадказнасць чалавека і невыкананне правілаў пажарнай бяспекі. Не грэбуйце жыццёва важнымі правіламі. Беражыце сябе і сваіх блізкіх. У выпадку пажару і іншых надзвычайных сітуацый неадкладна тэлефануйце на нумары 101 ці 112, не забываючы ўказваць адрас і месца пажару.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Дзяўчынка выпала з чацвёртага паверха

**АШМЯНЫ**

Увечары 24 чэрвеня ў Ашмянах здарыўся няшчасны выпадак з дзіцем.

Сямігадовая дзяўчынка абаперлася на маскітную сетку і разам з ёй выпала з акна чацвёртага паверха. Дзіця шпіталізавалі.

Сёлета за чэрвень у Беларусі шэсць дзяцей атрымалі траўмы пры выпадзенні з акна, з іх адно дзіця загінула.

**Паводле osh.by.**

**● УВАГА! ВЫШУК**

## Следчыя шукаюць мужчыну, якога падазраюць у злачынстве

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Маладзечанскі РАСК шукае 34-гадовага Аляксандра Жорава з вёскі Абухаўшчына Хоўхлаўскага сельсавета.**

Як паведамляюць следчыя, мужчыну падазраюць у злачынствах па частцы 1 артыкула 14 і па частцы 2 артыкула 205. Гэта замах на злачынства і крадзеж, учынены паўторна або з групай асоб, або з пранікненнем у жытло.

Следчыя пераканаўча просяць грамадзян, якія ведаюць нешта пра месцазнаходжанне Аляксандра Жорава, звярнуцца ў Маладзечанскі РАСК па тэлефонах: **8 (0176) 58 07 84** або **102**.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Ігара ПАЛЫНСКАГА.

Моцны вецер паваліў дрэва на машыну недалёка ад Маладзечна.

# Сарваныя дахі і дрэва, паваленае на дом

## Якія наступствы ў рэгіён прынесла навальніца

**24 чэрвеня па Маладзечаншчыне прайшла навальніца. Як расказалі ў ГРАНС Маладзечна, яна пашкодзіла некалькі будынкаў. А па словах чытачоў, моцны вецер пашкодзіў шыльду крамы ў Маладзечне і паваліў дрэва на аўтамабіль, прыпаркаваны недалёка ад горада.**

**МАЛАДЗЕЧНА СМАРГОНЬ**

Па інфармацыі ГРАНС, на Маладзечаншчыне моцны вецер сарваў шыфер на сельскагаспадарчых будынках сельгаспрадпрыемства «Яхімоўшчына Агра», малочнатаварнай фермы «Вялікія Кашэўнікі», ААТ «Палачаны», ААТ «Хоўхлава».

А ў 17:32 ратавальнікі выязджалі ў вёску Рабінавая Палачанскага сельсавета. Тут ліквідавалі наступствы моцнага ветру, які стаў прычынай падзення дрэва на жылы дом.

ГРАНС Маладзечна нагадвае, што рабіць, калі моцны вецер заспеў вас у будынку:

– адыдзіце ад вокнаў і займіце бяспечнае месца ля сцен унутраных памяшканняў, у калідоры, ля ўбудаваных шафаў, у ванных пакоях. Загасіце агонь у печы, адключыце электраэнергію, зачыніце краны на газавых сетках. Калі цёмна, выкарыстоўвайце ліхтары, уключыце радыёпрымач для атрымання дадатковай інфармацыі.

Калі ўраган заспеў вас на вуліцы, трымайцеся як мага далей ад лёгкіх пабудоў, будынкаў, мастоў, ліній электраперадач, дрэў, рэк, азёр і прамысловых аб'ектаў. Для папярэджання пажараў ад прамога ўдару маланкі неабходна абсталяваць дома маланкаадводы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Зноў сутыкненне аўтамабіля з ласём. Жывёла загінула

**ВІЛЕЙКА**

29 чэрвеня каля дзевяці вечара 50-гадовы кіроўца, жыхар Паставаў, сутыкнуўся з ласём на Вілейшчыне. Жывёла загінула. У машыны механічныя пашкоджанні. Падрабязнасці расказаў выканальнік абавязкаў начальніка ДАІ Вілейшчыны **Генадзь Сяськоў**:

– Кіроўца на «Таёце» ехаў па аўтадарозе Р-58 Мінск-Калачы-Мядзел. На 59 кіламетры ён наехаў на лася, які нечакана стаў пераходзіць дарогу злева направа ў непасрэднай блізкасці перад машынай. У выніку ДТЗ ніхто ў машыне не пацярпеў. У аўтамабіля – механічныя пашкоджанні. Тушу загінулай жывёлы перадалі егеру дзяржаўнай лесагаспадарчай установы «Краснасельская».

Генадзь Сяськоў адзначыў, што ў дзеяннях кіроўцы парушэнняў не зафіксавалі, складу адміністрацыйнага правапарушэння няма.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Праз Каменны Лог хацелі правезці шпалеры і ламінат па заніжанай цане

**АШМЯНЫ**

Шпалеры і ламінат спрабавалі завезці ў Беларусь па заніжаных у тры разы цэнах, паведамілі ў Дзяржаўным мытным камітэце.

Гродзенскія мытнікі выкрылі парушэнне ў пункце пропуску «Каменны Лог». Грузавы транспартны сродак ехаў з Літвы. «Пры правядзенні мытнага кантролю было ўстаноўлена, што колькасць і найменне шпалер і ламінату адпавядаюць названым у дакументах. Але мытнікі засумняваліся ў заяўленай перавозчыкам цане дадзенага тавару, які па выніках праверкі сапраўды апынуўся заніжаным больш чым у тры разы. Рэальная цана тавару склала больш за 56 тысяч еўра», – распавялі ў ДМК.

**Паводле БелТА.**

## На станцыі Баяры гарэў электрацягнік

**МАЛАДЗЕЧНА**

Здарэнне адбылося 26 чэрвеня днём. Пра яго расказаў супрацоўнік Маладзечанскага АУСТ **Сяргей Васілеўскі**.

Электрычка «Маладзечна-Мінск» рушыла па перагоне каля Баяраў. У 11:40 машыніст электрацягніка заўважыў паміж 9 і 10 вагонамі задымленне.

Тут жа электрычку спынілі і высадзілі пасажыраў. Брыгада электрычкі пачала тушыць агонь самастойна. Але сваімі сіламі не атрымалася, таму выклікалі супрацоўнікаў МНС.

На месцы працавалі чатыры адзінкі тэхнікі выратавальнікаў. Пажар ліквідавалі ў 12:18. Людзі не пацярпелі. Пашкоджаныя тамбуры 9 і 10 вагонаў электрычкі.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Вынесла пнеўматычную зброю, кулі і мяккую цацку

**МАЛАДЗЕЧНА**

Днямі на лінію 102 у Маладзечанскі РАУС звярнулася ўладальніца аднаго з мясцовых ціраў, размешчаным у гарадскім парку культуры і адпачынку. Па яе словах, з гандлёвай палаткі зніклі пнеўматычныя прыводы, упакоўка гумовых куляў і мяккая цацка.

Прапажу раніцай заўважыў работнік ціра, які прыйшоў адкрыць палатку і недалічыўся чатырох страйкбольных аўтаматаў. На месцы міліцыянеры ўстанавілі, што зламыснік пракраўся ўнутр ціра, пашкодзіўшы мацаванне тэнта.

Устанавілі асобу падазраванай – 18-гадовай навучэнкі аднаго з каледжаў Маладзечна. Дзяўчыну затрымалі. Узбудзілі крымінальную справу.

**Паводле РАУС Маладзечна.**

# Не трэніраваць лёгкія паветранымі шарамі і не палоць агарод

## Доктар-рэабілітолаг расказала, як паводзіць сябе тым, хто перахварэў на каронавірус

ВІЛЕЙКА

**Якія праблемы застаюцца пасля таго, як чалавек перахварэў на кавід? Як іх вырашаць? Ці трэба перахварэлым асаблівая дыета і комплексы практыкаванняў? З такімі пытаннямі мы звярнуліся да доктара-рэабілітолага загадчыцы аддзялення медыцынскай рэабілітацыі Вілейскай ЦРБ Наталлі Пятрышчавай.**



Сюды, у залу ЛФК, перахварэлыя на каронавірус могуць прыходзіць на рэабілітацыю.

### Застаецца слабасць і задышка. Што з гэтым рабіць

Па назіраннях Наталлі Аляксандраўны, большасць перахварэлых на каронавірус, скардзяцца на слабасць. Гэта ад таго, што хвароба забірае шмат сіл. Ёсць скаргі і на парушэнне дыхальнай функцыі. У многіх пасля хваробы застаецца задышка. Асабліва пры фізічнай нагрузцы.

– Таму неабходна, перахварэўшы, не перагружаць арганізм фізічна. Не варта, выпісаўшыся з бальніцы, адразу кідацца прыбіраць кватэру або палоць агарод. Рэжым павінны быць без нагрузак, з адпачынкам, нават калі чалавек не ляжаў у бальніцы. Рухальны рэжым трэба пашыраць паступова, пачынаць з лёгкай хады, – тлумачыць доктар. – У каго ёсць прыватныя дамы, можна пахадзіць у двары на свежым паветры. Калі жывяце ў кватэры, старайцеся больш праветрываць пакоі. Трэба, каб свежага паветра было шмат. Пачынайце з хады 30-40 крокаў за хвіліну. Пасля павялічвайце да 90-100. Рабіць гэта трэба да першых непрыемных адчуванняў, задышкі.

Неабходная і дыхальная гімнастыка. У інтэрнэце ёсць шмат іх спосабаў. А на сайце Дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта нават відэаўрокі. Гімнастыку трэба рабіць некалькі разоў на дзень, без ператамлення.

Па словах Наталлі Аляксандраўны, такія практыкаванні павінны быць без знешняга супрацўлення. Таму надзіманне паветраных шароў тут катэгарычна не падыходзіць. Гэта найбольш небяспечна пры кавіднай пнеўманіі.

Плаўна, павольна, па пэўнай схеме робяцца ўдыхі і выдыхі. У практыкаваннях доктар раіць пераходзіць на дыяфрагмальнае дыханне. Калі падчас гімнастыкі задзейнічаная дыяфрагма, раскрываюцца ніжнія аддзелы лёгкіх. Ідзе іх добрая вентыляцыя і кровазабеспячэнне.

### Што такое прон-пазіцыя і як у ёй правільна ляжаць

Пасля хваробы дактары раяць пару месяцаў ляжаць на жываце, падклаўшы валікі пад грудзі і таз, раскінуўшы рукі. Медыкі называюць такі стан прон-пазіцыяй. Яна лічыцца адным з лепшых спосабаў лячэння каронавіруса. У такой позе паляпшаецца кровазабеспячэнне і вентыляцыя ніжніх аддзелаў лёгкіх, якія часцей і церпяць пры каронавіруснай пнеўманіі.

Так варта класціся спаць ноччу і ляжаць удзень. У прон-пазіцыі добра адпачываць пасля выканання практыкаванняў.

– Поза на спіне – найбольш непрымальная для хворага ці перахварэлага. Калі нехта катэгарычна не можа ляжаць на жываце, трэба ляжаць на баках, – раіць доктар.

### І абавязкова піць шмат вады

Калі няма супрацьпаказанняў, медыкі рэкамендуюць перахварэлым піць шмат вадкасці.

> **Пажадана за дзень выпіваць два-два з паловай літры звычайнай або мінеральнай вады, але не салодкіх напояў. Вада патрэбная, каб аднавіць баланс вадкасці ў арганізме і перашкодзіць утварэнню тромбаў.**

Па словах доктара, з-за інфекцыі арганізм губляе шмат вадкасці – і ад тэмпературы, і ад штучнай вентыляцыі лёгкіх. Для барацьбы з інфекцыяй вада патрэбная арганізму. Да таго ж цяпер спякотны час, калі проста губляецца вадкасць.

### Якія непрыемныя наступствы цягне каронавірус

Наталля Аляксандраўна звяртае ўвагу, што змяненні ў лёгачнай тканцы пасля каронавіруса захоўваюцца вельмі доўга – да шасці месяцаў пасля хваробы. А ў некаторых і пажыццёва. Усё залежыць ад цяжкасці пнеўманіі і ад стану хворага – узросту, іншых захворванняў, масы цела.

Змены ў лёгкіх могуць прывесці да фіброзу – стану, калі скарачаецца плошча актыўнай тканкі лёгкіх, якая можа ўдзельнічаць у газаабмене. Калі не займацца сабой, не ляжаць у прон-пазіцыі, не рабіць практыкаванні, рызыкі павялічваюцца, перакананая доктар.

Яшчэ адна сур'ёзная праблема перахварэлых – утварэнне тромбаў. Менавіта таму дактары выпісваюць рэцэпт на рывараксабан, які больш ведаюць як ксарэлта і рэкамендуюць прымаць гэтыя лекі 45 дзён. Прэпарат не танны, але, па словах дактароў, патрэбны для прафілактыкі тромбаўтварэння. Падобныя прэпараты медыкі абавязкова ўводзяць хвораму падскурна, калі ён з кавідам ляжыць у бальніцы. Даказана, што кавідная інфекцыя спрыяе ўтварэнню тромбаў.

### Што прапануюць у зале ЛФК

– Пацыентаў, якія перахварэлі на каронавірус і ў якіх скончылася самаізаляцыя, мы запрашаем на рэабілітацыю ў залу ЛФК. Тут штодзень працуюць інструктары, ёсць праграма рэабілітацыі, распрацаваная ў адпаведнасці з усімі дакументамі. Калі хтосьці не хоча хадзіць, можам даць інструкцыі з сабой, каб людзі займаліся самастойна. Ёсць у нас рэкамендацыі Сусветнай арганізацыі аховы здароўя. Даём пачытаць і зрабіць копіі.

### Што з летнім адпачынкам і дыетай

Спякотай многім хочацца паплаваць і пазагараць. Ці можна гэта рабіць тым, хто перахварэў на кавід?

– Варта памятаць, што плаванне – гэта фізічная нагрузка. Калі ў чалавека ёсць праблемы з сэрцам, плаваць непажадана, тым больш гарачынёй. Арганізм і так аслаблены пасля хваробы. Калі ж асаблівых праблем няма і скончылася ізаляцыя, то чаму б і не паплаваць у разумных межах, але таксама не гарачынёй. Загараць усім лепш у час – да 11:00 і пасля 16:00. Тады сонца больш бяспечнае. Вітамін Д – гэта добра. І пасля каронавіруса ён патрэбны ў арганізме. Але ў прамежак ад 11:00 да 16:00 сонца можа больш нашкодзіць, чым быць карысным, – тлумачыць доктар.

> **Адмысловай дыеты пасля хваробы няма. Як і пры большасці захворванняў прымальнай будзе міжземнаморская дыета – шмат садавіны, гароднiны, морапрадуктаў, тлустай рыбы, менш мяса.**

– Магчыма, для кагосьці хвароба стане штуршком, каб пачаць правільна харчавацца, адмовіцца ад шкодных звычак, весці здаровы лад жыцця, развітацца з лішняй вагой, – падсумавала Наталля Аляксандраўна.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03.** |
| | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **2-49-65, 2-49-70.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16.** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Опель-Зафіра, 2001 г.в., 290 000 км, ідэальны стан. Т. (8-029) 7510708.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

• Рухавік ВАЗ-210836, СПХ да ВАЗ-21099, да ВАЗ-2101, да «Масквіча-412» і запчасткі да ВАЗ-21099. Т. (8-029) 9050949.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўтамабіль аварыйны альбо з праблемамі. Эвакуатар бясплатна. Т. (8-029) 9085343.*

• Аўто 1,0 – 5,0 л у любым стане. Тэрмінова! (срочно). Т. (8-029) 7088846.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Іншамарку ў любым стане, можна не на хаду. Забяру сам. Т. (8-029) 5377786.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-033) 3631161, (8-029) 1236722.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029) 6510099, (8-029) 7555455.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра з балконам агульнай плошчай 30,3 кв. м, 5 паверх, у цэнтры Маладзечна па вуліцы Вялікі Гасцінец, 72-а. Т. (8-029) 7672490.*

• 1-пакаёвая кватэра ў г. Мядзел. 3 паверх, плошча 36,8 кв. м. Нядорага. Т. (8-029) 8778329.

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. В. Гасцінец, 76, 2 паверх, 47,5/30,9/6,2. Т. (8-029) 8530568 Юра, (8-029) 8658884 Інэса.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, раён – Зеніт. Агульная плошча 65,6 кв.м, 3 паверх 5-павярховага панэльнага дома. Магчымы абмен на 1-пакаевую кватэру ў Мінску. Т. (8-029) 6615287.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 2982204.*

• Гараж у Маладзечне ў ГК-32 (Фестывальны). Плошча 6м х 4м, вышыня брамы 2,48 м, вышыня ад падлогі да столі 2,74 м, у падвале пакладзеная сцяжка з гідраізаляцыяй. Гараж электрыфікаваны. Прапанову з Вашай магчымай цаной і нумарам тэлефона адпраўляйце праз SMS на (8-029) 8550550. Калі мне спадабаецца Ваша цана, то я Вам перателефаную.*

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС.*

• Кватэра ў навабудоўлі Маладзечна. Т. (8-029) 9439184.*

• Участак у в. Чыжэвічы Вілейскага раёна, 15 сотак, вул. Чыжэвіцкая, 9-б. 500 м ад Вілейскага вадасховішча. Побач лес. Па вуліцы праведзены прыродны газ. Т. (8-029) 6686477.*

### ЗДАМ

• 2-пакаёвую кватэру ў Маладзечне па вул. Хмяльніцкага, д.6, насупраць базару. Т. (8-029) 7052670.*

• Майстэрню для рамонту аўтамабіляў з абсталяваннем, 90 кв.м. Т. МТС (8-029) 1110707.*

• Памяшканне ў цэнтры Маладзечна, 32 кв.м. Т. (8-029) 5551515.*

• У арэнду памяшканне магазіна плошчай 370 кв.м ў Маладзечне па вул. Святаянскай, 75. Ёсць памяшканне для вытворчасці паўфабрыкатаў. Магчымы продаж. ІП Заянчкоўскі І.С. УНП 691890017. Т. (8-029) 6278076.*

## ПАСЛУГІ

### НАЙМУ

• Найму частку дома альбо пакой. Т. (8-044) 5762377.

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Жывая музыка. Тамада. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

• Музыка. Відэа. Фота. Т. (8-029) 8578378.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ**. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• Вароты адкатныя і двухстворкавыя (распашные). Агароджы. Навесы. Казыркі і іншыя вырабы з металу з коўкай ці без. Растэрміноўка. ІП Дрозд. УНП 692024743. Т. (8-029) 7611311, (8-044) 7145208.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245.

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Дах пад ключ. Мантаж новага, замена старога. Матэрыялы. Дастаўка. Гарантыя. ІП Капцюг Р.П. УНП 692252550. Т. (8-029) 5580884,(8-029) 9382802.*

• Дахавыя работы, устаноўка агароджаў пад ключ, укладка тратуарнай пліткі. ІП Смолка М.В. УНП 691185021. Т. (8-044) 7794566.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, А (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт тэлевізараў і антэн. Вілейка і Вілейскі раён. ІП Петрашэвіч А.В. УНП 691182709. Т. (8-029) 5714165 (вайбер).*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*

• Свідраванне (сверление) адтулін (отверстий) у бетоне, цэглe, камені пад каналізацыю, водапровод, вентыляцыю. ІП Варывончык В.А. УНП 692245096 Т. (8-029) 7088846.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Арганізацыя прадае фрызы і дэкоры, бардзюрныя ўстаўкі старых калекцый пліткі «Керамін» ад 20 капеек за штуку. Вялікі асартымент. Складския рэшткі ў Маладзечне. Запрашаем дызайнераў і будаўнікоў для рэалізацыі смелых арыгінальных рашэнняў. Крама «Сантэхніка плюс», г. Маладзечна, Чкалава, 4 (каля гарадскога стадыёна). ІП Качаткоў В.Б. УНП 690295509. Тэл. для даведак: (8-029)6423464.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Бытавая тэхніка**

• Станок дрэваапрацоўчы б/у. Т. (8-029) 3540476.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

• Індакачкі з індакачанятамі. Вылупіліся 17.06.2021. Т. (8-029) 5005707.

**Іншае**

• Дзіцячыя вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.), ровар для двайні або пагодак (40 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

### КУПЛЮ

**Будматэрыялы, сантэхніку**

• Арматуру, профільную трубу, вугалок, дошку, брус, кроквы. Т. МТС (8-029) 1110707.*

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапеды, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Слесар-кузаўшчык для рамонту аўтамабіля. Майстэрня ёсць. Т. МТС (8-029) 1110707.*

• Шукаю беларускамоўнага псіхолага ў Маладзечне. Т. (8-029) 8727107.*

## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Шукаю работу па рамонце халадзільнікаў, маразільнікаў. Запраўка фрэонам. Т. (8-029) 3395974.*



**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |

# Дайджэст. Санкцыі, 15 гадоў для Бабарыкі і змяненне Канстытуцыі

**«Рэгіянальная газета» прапануе традыцыйны тыднёвы дайджэст па галоўных падзеях і навінах, што адбыліся ў апошнія сем дзён у Беларусі і свеце.**

### Еўрасаюз забараніў імпарт і транзіт нафтапрадуктаў з Беларусі

На мінулым тыдні ЕС увёў сектаральныя санкцыі супраць беларускіх уладаў. Сектаральныя санкцыі цалкам забараняюць імпарт нафтапрадуктаў з Беларусі і іх транзіт праз тэрыторыю Еўрапейскага саюза.

Сярод іншага ёсць забарона на імпарт і экспарт абсталявання для сачэння за людзьмі ў інтэрнэце і па тэлефоннай сувязі, на доўгатэрміновае крэдытаванне дзяржкампаній і размяшчэнне каштоўных папер з пагашэннем больш за тры месяцы.

Забараняецца продаж і транзіт тытуню і тытунёвых вырабаў з ЕС пакупнікам з Беларусі ці для выкарыстання ў Беларусі. Таксама ўводзіцца забарона на імпарт альбо экспарт тавараў і тэхналогій двайнога прызначэння для ваеннага выкарыстання, даваць фінансаванне ці фінансавую дапамогу для набыцця тэхналогій падвойнага значэння для ваеннага выкарыстання ў Беларусі.

**Паводле eur-lex.europa.eu.**

### Пратасевіча і Сапегу перавялі пад дамашні арышт

Рамана Пратасевіча і Соф'ю Сапегу перавялі пад дамашні арышт. Яны амаль месяц знаходзіліся за кратамі пасля затрымання.

**Следчы камітэт патлумачыў, што расследаванне крымінальных спраў у дачыненні да Пратасевіча і Сапегі працягваецца. Абодва даюць прызнальныя паказанні. Іх адпусцілі пад дамашні арышт, бо яны раней хадайнічалі аб гэтым.**

Нагадаем, Рамана Пратасевіча і Соф'ю Сапегу затрымалі 23 мая ў Мінску. Самалёт, на якім яны ляцелі з Афін у Вільню, пасадзілі ў сталіцы Беларусі з-за бомбы на борце. Аднак бомбы ў самалёце не аказалася.

**Паводле nn.by.**

### У першым чытанні прыняты законапраект аб змяненні Канстытуцыі

На пятай сесіі Палаты прадстаўнікоў быў прыняты ў першым чытанні законапраект «Аб змяненні Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь».

**Змяненні прадугледжваюць магчымасць правядзення выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў 29-га склікання адначасова з правядзеннем выбараў у Палату прадстаўнікоў 8-га склікання.**

Наступныя выбары ў Палату прадстаўнікоў павінны адбыцца ў 2023 годзе.

**Паводле БелТА.**

### Генеральная пракуратура накіравала ў суд справу Калеснікавай і Знака

Генпракуратура Беларусі накіравала ў суд справу членаў Каардынацыйнай рады і штаба Віктара Бабарыкі Марыі Калеснікавай і Максіма Знака. Іх абвінавачваюць па трох артыкулах Крымінальнага кодэкса:

- змова або іншыя дзеянні, учыненыя з мэтай захопу ці ўтрымання дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам;
- заклікі да дзеянняў, накіраваных на прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы;
- стварэнне экстрэмісцкага фарміравання альбо кіраўніцтва ім.

Максім Знак і Марыя Калеснікава былі затрыманыя ў верасні 2020 года.

**Паводле nn.by.**

### Распрацоўшчык «Спутника V» заявіў аб зніжэнні яго эфектыўнасці супраць індыйскага штама

Эфектыўнасць вакцыны «Спутник V» зніжаецца ў 2,6 раза супраць індыйскага штама каронавіруса. Намеснік дырэктара Цэнтра імя Гамалеі **Дзяніс Лагуноў** заявіў, што гэта нязначнае зніжэнне. Ён адзначыў, што ў дачыненні да замежных вакцын зніжэнне складае ад 3 да 5 разоў.

**Паводле ТАСС.**

### У Лунінецкім раёне верталёт МНС здзейсніў аварыйную пасадку

27 чэрвеня пры выкананні работ па авіяцыйным патруляванні лясоў каля вёскі Чарабасава Лунінецкага раёна верталёт Мі-2 здзейсніў аварыйную пасадку.

Камандзір і лётчык-назіральнік самастойна пакінулі верталёт. Яны не пацярпелі. Верталёт атрымаў механічныя пашкоджанні.

**Паводле МНС Беларусі.**

### Амерыканскага паліцэйскага асудзілі на 22,5 года за забойства Джорджа Флойда

Суд у Мінеапалісе асудзіў былога паліцэйскага Дэрэка Шоўвіна да 22 з паловай гадоў зняволення за забойства афраамерыканца Джорджа Флойда. Абвінавачанне прасіла для падсуднага 30 гадоў турмы.

Забойства Джорджа Флойда 25 мая 2020 года справакавала масавыя пратэсты і беспарадкі ў ЗША.

**Паводле ria.ru.**

### Дзяржабвінаваўца запатрабаваў для Бабарыкі 15 год турмы

Дзяржаўнае абвінавачанне запатрабавала для былога прэтэндэнта ў кандыдаты ў прэзідэнты Беларусі і банкіра Віктара Бабарыкі 15 гадоў зняволення ва ўмовах узмоцненага рэжыму.

Віктара Бабарыку абвінавачваюць у атрыманні хабару ў асабліва буйным памеры і легалізацыі сродкаў, атрыманых злачынным шляхах. Дзяржаўны абвінаваўца запрасіў максімальны тэрмін па гэтых артыкулах.

Беларускія праваабарончыя арганізацыі прызналі Бабарыку палітычным зняволеным. Сам ён не прызнаў сваёй віны. Прысуд будзе вынесены 6 ліпеня.

**Паводле svaboda.org.**

● ДЗЕНЬ ВЫЗВАЛЕННЯ

# Малымі сіламі і невялікімі стратамі

## Як летам 1944 года вызвалялі Вілейку

**Да лета 1944 года большую частку Беларусі ўжо вызвалілі. А на астатняй частцы сканцэнтравалася шмат ахоўных і франтавых войскаў. Толькі ў раёне Вілейкі было сканцэнтравана больш за дзесяць тысяч нямецкіх салдат і афіцэраў.**

Ноччу 20 чэрвеня 1944 года Вілейшчыну скалануў рэйкавы ўдар партызан. Толькі на ўчастку Полацк-Маладзечна аднačасова ўзарвалі больш за 1300 рэек.

Вілейка апынулася ў паласе наступлення Трэцяга Беларускага фронту. Часці трэцяга гвардзейскага Сталінградскага корпуса падышлі да Віліі ўжо праз тыдзень пасля фарсіравання Бярэзіны, пераадолеўшы каля ста кіламетраў.

Да вечара 30 чэрвеня передавыя атрады 35-й гвардзейскай танкавай брыгады і 334-га гвардзейскага дывізіёна рэактыўнай артылерыі былі на подступах да Вілейкі. Кіраваў гэтым зводным атрадам і апераціяй па вызваленні горада Герой Савецкага Саюза, гвардыі генерал-маёр танкавых войскаў, азербайджанец **Азі Асланаў**, камандзір 35-й гвардзейскай танкавай брыгады. Сумесна з арміяй горад вызвалялі партызаны.

Галоўны разлік Асланава быў на імклівасці і нечаканасці атакі. Раніцай 1 ліпеня пасля залпа «кацюш» штурмавыя атрады накіраваліся да горада і з ходу завязаліся вулічныя баі. У нямецкім гарнізоне пачалася паніка. Ворагі спрабавалі арганізаваць супраціўленне. Атрымалася так, што танкавыя падраздзяленні 35-й брыгады адсталі ў дарозе, затрымаўшыся на пераправе праз Вілію недзе ў раёне Сосенкі. Але Асланаў вырашыў пачынаць бой без асноўнай ударнай сілы брыгады. Чатыры танкі пад камандаваннем гвардыі лейтэнанта **Міхаіла Шуйдзіна** прыйшлі ў горад да 1 ліпеня. Дарэчы, Шуйдзін пасля вайны стаў вядомым клоўнам і акрабатам-эксцэнтрыкам. З 1950 года доўгі час працаваў у пары з Юрыем Нікуліным.

Адным з першых уварваўся ў горад бронетранспарцёр разведкі пад камандаваннем гвардыі старшыны **Караўнічэнкі**, следам за ім – узвод аўтаматчыкаў з разведкі мабатальёна на чале з гвардыі старшым лейтэнантам **Нужным**. Адначасова дзве стралковыя роты прасоўваліся з баямі па паўднёвай ускраіне горада ў напрамку вакзала. Да наступлення цемнаты Вілейку цалкам ачысцілі, за выключэннем чыгуначнай станцыі, дзе вораг яшчэ супраціўляўся. Але да раніцы наступнага дня супраціўленне зламаў агонь «кацюш» 129-га мінамётнага палка, які падышоў, а таксама танкаў.

Камандзір трэцяга гвардзейскага Сталінградскага механізаванага корпуса, гвардыі генерал-лейтэнант танкавых войскаў, Герой Савецкага Саюза **Абухоў** прыгадваў: «Захоп Вілейкі аказаўся нечаканым не толькі для ворага, але і для камандавання фронту. Днём паступіла радыёграма са штаба фронту з загадам авалодаць да зыходу дня 2 ліпеня горадам Вілейка, у той час, як генерал Асланаў у 15 гадзін ужо данёс мне аб узяцці гэтага горада».

Абласны цэнтр і буйная чыгуначная станцыя Вілейка малымі сіламі і невялікімі стратамі былі вызваленыя. 2 ліпеня вечарам па радыё передалі загад Вярхоўнага галоўнакамандуючага войскам Трэцяга Беларускага фронту ў сувязі з вызваленнем Вілейкі.

**Паводле артыкула Вольгі Коласавай з кнігі «Память. Вілейскі раён»**



Фота з Вікіпедыі.

Пяціметровы помнік Азі Асланаву ў Вілейцы каля будынка Цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі.

### Калі ў 1944 годзе вызвалілі гарады рэгіёна

**Вілейка** – 2 ліпеня
**Астравец** – 3 ліпеня
**Мядзел** – 4 ліпеня
**Смаргонь** – 5 ліпеня
**Маладзечна** – 5 ліпеня
**Валожын** – 5 ліпеня
**Ашмяны** – 7 ліпеня

## Заводзім! Або чаму так важна знайсці дросельную засланку

**Гэта нагадвае анекдот. Часта наведнікі пракату па Чкалава, 4 у слаўным горадзе Маладзечна праходзяць інструктаж. Што адбываецца пасля першага пытання, ці працавалі з пэўным інструментам?**

Адказваюць, што працавалі, расплываючца ва ўсмешцы і пачынаюць, дакладней, спрабуюць пачаць хваліцца сваімі рыбацкімі прыгодамі з інструментам. Але пасля персанал, які многае бачыў і навучаны, дае каманду – заводзім! І тут вельмі часта ўсё становіцца зусім сумна.

Магчыма, людзі калісьці працавалі на падобных інструментах, але памылкі пры заводцы на практыцы робяць вельмі часта.

Гэта прыводзіць да выхаду са строю стартара. А часам інструмент увогуле не заводзіцца. Дык што ж галоўнае?

Спярша праверце кнопкі «ўключыць» і «выключыць». Здаецца, гэта лёгка. Але на практыцы часам забываюць пра гэтыя кнопкі.

Наступны крок – кранік паліўнага бака. Не варта забываць яго ўключаць, ён ёсць у большасці прылад.

Ручное падпампоўванне паліва таксама лёгка даецца будучым карыстальнікам бензаінструмента.

І вось самая складаная для разумення, і, здаецца, лёгкая функцыя – гэта як вы думаеце, што? Засланка падачы паветра. Заўсёды шукайце засланку падачы паветра, якую на прафесійным слэнгу называюць дросельнай засланкай.

Папросту гэта можна растлумачыць наступным чынам. Калі распальваеш вогнішча, прыток паветра павінны быць мінімальны. Так і тут. Калі заводзіце інструмент, засланка павінна быць закрытая. Як толькі завялі інструмент, адразу пераводзьце засланку ў адкрытае становішча.

Гэта нагадвае працэс распальвання вогнішча. Калі яго распальваеш, прыток паветра павінны быць мінімальным. Здаецца, гэта вельмі проста і зразумела.

Так што шукайце ў бензаінструментах дросельную засланку. І як толькі задасце спецыялісту пытанне, дзе ж размешчаная дросельная засланка, адразу ж падымеце свой аўтарытэт у яго вачах.

Працаваць можна толькі пры адкрытай дросельнай засланцы. Заводзім пры закрытай і пераводзім у адкрытую, калі завялі.



Фота molot-master.ru.

Дросельная засланка.

## Беларусь 1

**6.10, 21.55** Х/ф **«ЗАМОК НА ПЕСКЕ».**

**8.05** Існасць [СТ].

**8.30** Смысл жизни.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Доброе утро, Беларусь!» со Светланой Боровской».

**9.55** Здоровье. [СТ].

**10.45** Дача.

**11.20** «Повод есть».

**12.10** Т/с **«ОТЕЛЬ «ФЕНИКС».**

**14.10** Женщины и спорт.

**15.10** Краіна.

**15.40** Истории спасения.

**16.10** Х/ф **«НЕЗАБЫТАЯ».**

**19.00** «Вопрос номер один».

**19.25** Х/ф **«НЕЗАБЫТАЯ».**

**21.00** Панорама.

**21.40** Х/ф **«КРЫЛЬЯ ПОБЕДЫ».**

**1.40** День спорта.

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.

**8.00, 18.05** Телебарометр.

**8.05** Т/с **«КЛОН».**

**10.00** Анимация для всей семьи «Путеводная звезда».

**11.20** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**12.15** «Камень, ножницы, бумага».

**12.50** «На неделю».

**13.40** Х/ф **«ЭННИ».**

**15.50** Х/ф **«РУКА НА МИЛЛИОН».**

**18.10** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу. Заключительный выпуск.

**20.20, 21.15** Фильм-фэнтези «Малефисента».

**21.10** Спортлото 6 из 49, КЕНО.

**22.35** Х/ф **«ЯРОСТЬ».**

## Беларусь 3

**7.10** «Сказка о мертвой царевне и о семи богатырях». Мультфільм.

**7.40** «Сіла веры».

**8.10, 14.40** Навіны культуры.

**8.25** «Каханне зямное». Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Жывая спадчына». Выраб дываноў у тэхніцы аплікацыі саломкай па тканіне (в.Рухава, Старадарожскі раён, Мінская вобласць).

**10.30** «Беларуская кухня». Стромга з яблыкамі.

**10.55** «Я хачу гэта ўбачыць!».

**11.25** «Лёс». Мастацкі фільм [СТ].

**14.15** «Навукаманія».

**15.00** «Чалавек-аркестр». Мастацкі фільм.

**16.25** «Гукі ў футляры». Скрыпка.

**16.50** Л.Мінкус. «Баядэрка». Балет Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

**18.50** «Вяртанне «Святога Лукі». Мастацкі фільм [СТ].

**20.25** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць — прафесар, кандыдат мастацтвазнаўства Рыгор Баравік.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Пунсовыя ветразі». Мастацкі фільм [СТ].

**22.30** «Класіка сусветнага кіно». Фільм Лукіна Вісконці «Бязвінны».

**22.40** «Бязвінны». Мастацкі фільм.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 20.00** Наши новости.

**7.10** ОНТ представляет: «Марков. Ничего личного».

**8.00, 9.10** ОНТ представляет: «Наше утро в субботу».

**10.00** ОНТ представляет: «Тревожная кнопка».

**10.25** «На дачу!» с Наташей Барбье.

**11.25** «Видели видео?».

**12.25** К 75-летию Валентины Толкуновой. «Голос русской души».

**13.30** «Остров Крым».

**16.20** «Кто хочет стать миллионером?» с Дмитрием Дибровым.

**17.55** «Сегодня вечером».

**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».

**21.05** «Сегодня вечером» Продолжение.

**22.00** Т/с **«ОТЕЛЬ СЧАСТЛИВЫХ СЕРДЕЦ».**

## СТВ

**6.35, 23.35** Т/с **«ТУРИСТЫ».**

**8.10** «Анфас».

**8.30** «Самая полезная программа».

**9.30** «О вкусной и здоровой пище».

**10.00** «Минск и минчане».

**10.30** «Центральный регион».

**11.00** «Неизвестная история».

**12.25, 13.40, 16.40** Т/с **«КАРПОВ».**

**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».

**20.20** «СТВ-спорт».

**20.30** Документальный спецпроект.

**22.10** «Территория заблуждений».

**1.05** Т/с **«ШАТУН».**

## Мир

**5.00, 6.15** Мультфильмы.

**6.00** «Всё, как у людей».

**6.30** Х/ф **«АМЕРИКАНСКАЯ ДОЧЬ».**

**8.25** «Наше кино. Неувядающие». Сильвестр Сталлоне.

**9.00** «Слабое звено».

**10.00, 16.00, 19.00** Новости.

**10.10** Х/ф **«ТЫ-МНЕ, Я-ТЕБЕ».**

**12.00, 16.15, 19.15** Т/с **«БАЛАБОЛ».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.05, 6.55** Сегодня. Главное.

**6.20** «Дача».

**7.10** «50 рецептов первого».

**8.00, 10.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».

**8.20** «ЧП.by: Время итогов».

**8.45** Один день.

**9.20** «Врачебные тайны плюс».

**10.20** Сломать стереотипы.

**10.40** Главная дорога.

**11.10** «Живая еда с Сергеем Малозёмовым».

**12.00** Квартирный вопрос.

**13.00** Истории спасения.

**13.25** «Поедем, поедим!».

**14.05** Т/с **«ГОСУДАРСТВЕННАЯ ГРАНИЦА».**

**15.15, 16.20** «Следствие вели…».

**17.05** «Секрет на миллион».

**19.20** Т/с **«ПОТЕРЯННЫЕ».**

**23.15** Х/ф **«ОТПУСК».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.05** «Новое Утро».

**9.30** «По секрету всему свету».

**10.00** «Тайны Беларуси».

**11.00, 20.00** ВЕСТИ.

**11.20** «Наше дело».

**11.35** «В людях».

**12.20** «Юмор! Юмор! Юмор!!!».

**13.05** ПРЕМЬЕРА. «Доктор Мясников».

**14.10** Х/ф **«Я ЕГО СЛЕПИЛА».**

**16.15** Т/с **«ПОЛОСА ОТЧУЖДЕНИЯ».**

**19.45** «Плюс-минус».

**20.45** «Привет, Андрей!». Вечернее шоу Андрея Малахова.

**22.30** Х/ф **«ТОКСИЧНАЯ ЛЮБОВЬ».**

## кіно і спорт

### TV1000

**5.00, 1.15** Ван Хельсинг. **7.05** Человек-паук. **9.05** Человек-паук 2. **11.15** Человек-Паук 3. **13.40** Повелитель стихий. **15.30** Седьмой сын. **17.10** Зелёная миля. **20.30** Код Да Винчи. **23.00** Ангелы и Демоны. **3.25** Игра в прятки.

### TV1000 ACTION

**5.50** Стелс. **7.50** Игра Эндера. **9.40** Столкновение с бездной. **11.40** Скалолаз. **13.30** Денежный поезд. **15.20** Девять Ярдов 2. **17.05** РЭД 2. **19.00** Агент Джонни Инглиш. **20.25** Агент Джонни Инглиш: Перезагрузка. **22.10** Зачинщики. **23.40** Рокки 4. **1.15** Рокки 5. **3.00** Рокки Бальбоа.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.45** Война полов. **8.30** Zолушка. **10.05** Однажды. **11.50, 12.40, 13.35, 14.30, 15.25, 16.20, 17.15, 18.10** Гетеры майора Соколова. **19.05** Вратарь Галактики. **21.10** Коробка. **23.00** Околофутбола. **0.35** Чёрная молния. **2.15** Ласковый май. **4.00** Голоса большой страны.

### ТВ3

**6.00** Коллекция Беларусьфильма. **8.55** «Глубокое течение». **10.45** «Налегке». **11.25** «M&S». **12.05** «Посмотрим». **12.45, 23.10** «Перископ». **13.05** «Сверхъестественный отбор». **14.10** «Новый день». **14.50** «Агентство О.К.О.». **16.45** «Хватит слухов». **17.20** «Второе зрение». **19.25, 5.15** «Петербуржские тайны семьи Боярских». **20.25** «Осторожно мошенники!». **21.00** ЛУЧШЕЕ. РУ: «Портрет второй жены». **23.30** Х/ф **«ТРЕВОЖНЫЙ ВЫЗОВ». 1.25** «Грань». **2.55** «Викинги». **4.25** «Колдуны мира».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 0.00, 1.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ЖАРКИЙ ЛЕД». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ПРИМАДОННА». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«ДЕРЕВЕНСКАЯ КОМЕДИЯ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«БЛУДНЫЕ ДЕТИ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ЖИЗНЬ, КОТОРОЙ НЕ БЫЛО». 16.00, 17.00** Т/с **«КОШАЧИЙ ВАЛЬС». 18.00, 19.00** Т/с **«СЧАСТЛИВЫЙ СЛУЧАЙ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.05** Х/ф **«ЯГУАР». 3.15** Х/ф **«МОНТЕ-КАРЛО». 5.10** Х/ф **«СНОВА В ШКОЛУ». 7.00** Х/ф **«БЕЛЫЕ ЦЫПОЧКИ». 8.55** Х/ф **«ПРИШЕЛЬЦЫ». 11.00** Х/ф **«ПРИШЕЛЬЦЫ 2 : КОРИДОРЫ ВРЕМЕНИ». 13.15** Х/ф **«ОХОТНИК ЗА ГОЛОВАМИ». 15.20** Х/ф **«КТО Я?». 17.35** Х/ф **«ГИТЛЕР КАПУТ». 19.30** Х/ф **«САМЫЙ ЛУЧШИЙ ДЕНЬ». 21.25** Х/ф **«С ВЕЩАМИ НА ВЫЛЕТ!». 23.05** Х/ф **«КАК ВЫЙТИ ЗАМУЖ ЗА МИЛЛИАРДЕРА».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.50, 1.40** Т/с **«ГУРЗУФ». 2.40, 3.35, 4.20, 5.15, 6.10, 7.05** Т/с **«УЧИТЕЛЯ». 8.05, 9.00, 10.00, 11.00** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА». 11.55, 12.55, 13.55, 14.55, 15.55, 16.55, 17.55, 19.00, 20.00, 21.00, 22.00, 23.00** Т/с **«НАУЧИ МЕНЯ ЖИТЬ».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.25** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.00, 2.40** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **12.00** Шоу «СТЕНДАП АНДЕГРАУНД». **13.05** Х/ф **«ТАКСИ 2». 14.55, 20.25** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **16.30** Х/ф **«SUPERЗЯТЬ». 18.35** Х/ф **«ПЛОХОЙ САНТА». 22.00** Х/ф **«МУЖЧИНА НАРАСХВАТ». 0.00** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-ПАУК 3: ВРАГ В ОТРАЖЕНИИ». 3.35** Т/с **«ПАПИНЫ ДОЧКИ». 4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.55** Теннис. Уимблдон. Мужчины. 1/2 финала. **10.00, 18.40** Легкая атлетика. Молодежный чемпионат Европы. Таллин. **13.20** Теннис. WTA. Гамбург. 1/2 финала. **16.00** Теннис. Уимблдон. Женщины. Финал. **18.30, 23.45** Спортцентр. **23.55** Автоспорт. Экстрим-Е.

### EUROSPORT

**0.45** Ралли-рейд. «Шёлковый путь». 8-й этап. **1.00, 4.00, 9.30, 12.00** Велоспорт. «Тур де Франс». 13-й этап. **2.30** Снукер. Чемпионат мира. Полуфинал. К. Уилсон – Мёрфи. **6.00** Олимпийские игры. «Зал славы». Лондон-2012. **7.00** Снукер. Чемпионат мира. Финал. Селби – Мёрфи. **10.30** Олимпийские игры. H2H: Хайле Гебреселассие – Мо Фара. **11.00** Велоспорт. «Джиро д'Италия». Женщины. 8-й этап. **13.20, 20.00** Велоспорт. «Тур де Франс». 14-й этап. **18.15** Формула Е. е-При Пуэблы. Ревью. **19.15** Кузовные автогонки. Кубок мира. Эшторил. Вторая гонка. **21.30** Олимпийские игры. «Дорога в Токио». Спортивное скалолазание. **22.30** Формула Е. е-При Нью-Йорка. Квалификация 1. **23.00** Формула Е. е-При Нью-Йорка. Первая гонка.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Авто: вторые руки. **6.30, 9.20, 11.50, 14.50, 17.35, 21.35, 0.35, 2.50** Итоговые новости. **6.45, 12.40, 17.00, 17.55, 20.40, 0.00, 4.40** От Кавказа до Аравии. **7.50, 8.50** Испытание на прочность. **8.20, 9.40** Возвращение легенды. **10.10** Комплектация. **10.40, 18.30, 22.35** Всё включено. **11.15, 19.25, 22.55, 3.35** Всё о мото. **12.10, 20.00, 23.25, 4.05** Тест с дядей Ваней. **13.15, 0.55** Байки про байки. **13.55, 1.30** Мото дуэль. **14.15, 15.10, 1.45** Тест на «Драйве». **15.45** Кругосветка по бездорожью. **16.15, 21.50, 5.10** Советы юриста. **21.15** Эконом-тест. **3.05** Сити тестер.

### EXPLORE

**6.00, 6.50, 7.40** Переделка старья. **8.25, 9.15, 10.00, 10.45** Драндулеты на продажу. **11.35, 12.20, 18.45** Винтажные электромобили. **13.10, 13.55** Строительство гигантов. **14.45, 15.35** Масштабные инженерные ошибки. **16.20, 17.10, 21.15, 3.40, 4.25** Ледовые викинги. **18.00, 22.00** Речные чудовища. **19.35** Строительные неудачи. **20.30** Железная дорога во льдах. **22.55, 23.45** Дикая Монтана. **0.30, 1.15** Австралийские золотоискатели. **2.05, 2.50** Австралийские охотники на лобстеров. **5.15, 5.40** Демонтаж: Новая Зеландия.

### HISTORY

**6.00** Даты, вошедшие в историю. **6.25, 7.15** Очень странные экспонаты. **8.05, 1.30** Забытая армия викингов. **8.55, 18.25, 19.20, 20.10, 2.20** Падение империи. **9.50, 10.40, 11.35** Монархи: забытые письма. **12.25, 13.30, 14.35** Древние конструкторы. **15.40, 21.00** Великая эпидемия чумы в Лондоне. **16.30, 17.25, 21.50, 22.50** Тайны мертвых. **23.45** Помпеи: 48 часов до катастрофы. **0.40** Вена: империя, династия и мечта. **3.10** Операция «Золотая лихорадка». **4.00** Наполеон. **5.00** Музейные тайны.

### NATURE

**6.00, 3.25, 3.50** Постыдные проблемы питомцев. **6.20, 7.10, 8.00, 8.45, 9.35, 10.25, 11.15, 12.00, 4.15** Подработка в дикой глуши. **12.50, 13.40, 14.30** Загадочная планета. **15.25, 16.20** Коварные растения. **17.15, 18.10, 1.20** Выживание в дикой природе. **19.00, 19.45, 20.35** Ветеринар из Йоркшира. **21.20** Необъяснимая Земля. **22.15, 23.00, 0.35** Мутации погоды. **23.45** Невероятные встречи с животными. **2.10** В зоопарке Таронга. **3.00** Спасение диких медведей. **5.05** Опасные исполины.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 5.35** Зона строительства. **6.10** Делай ставки и взрывай. **6.35, 7.20** Авто-SOS. **8.10** Расследование авиакатастроф. **9.00, 9.55** Машины: Разобрать и продать. **10.45, 11.35, 12.25** Исследователь 2. **13.15, 14.05** Панорама 360. **14.55, 15.50, 16.45, 17.35** Морган Фриман. **18.30, 19.20, 3.20** Расследования авиакатастроф. **20.10, 23.25** Служба безопасности аэропорта: Первый класс. **21.00, 21.50** Служба безопасности аэропорта: Бразилия и Перу. **22.35** Служба безопасности аэропорта: Бразилия. **0.15, 1.05** В погоне за НЛО. **1.50, 2.35** Прорыв. **4.05, 4.50** Эвакуация Земли.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 7.00, 9.05, 10.05, 11.05, 12.05, 13.10, 14.00, 15.00, 16.05, 17.00, 18.00, 19.05, 20.05, 21.10, 22.15, 23.00, 0.05, 1.05, 2.05, 3.05, 4.00, 5.05** Безграничная рыбалка. **6.30, 7.30, 8.35, 9.35, 10.35, 11.35, 12.40, 13.40, 14.30, 15.30, 17.30, 18.30, 19.35, 20.35, 21.40, 23.30, 0.35, 1.35, 2.35, 3.30, 4.35, 5.30** Дело вкуса. **6.45, 7.40, 8.45, 9.50, 10.45, 11.50, 12.55, 14.45, 15.50, 16.40, 17.40, 18.45, 19.50, 20.50, 22.00, 22.45, 23.50, 0.50, 1.50, 2.50, 3.45, 4.50, 5.45** Охотничья и рыболовная кухня. **8.00** На рыбалку с охотой.

### УСАДЬБА

**6.00, 13.55, 18.00, 22.00, 2.20** Прогулка по саду. **6.35 6.35 6.35, 10.25 10.25 10.25, 14.30 14.30 14.30, 18.35 18.35 18.35, 22.35 22.35 22.35, 2.50 2.50 2.50** ..И КОМПОТ! **6.45, 14.45, 18.50, 22.50, 3.05** Готовим на Майорке. **7.00, 11.00, 15.05, 19.10, 23.10, 3.20** Побег из города. **7.30, 11.30, 15.35, 19.40, 23.40, 3.50** Тихая моя родина. **8.00, 12.05, 16.05, 20.10, 0.10, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.25, 16.25, 20.30, 0.30, 4.35** Готовим на природе. **8.35, 12.40, 16.40, 20.45, 0.50, 4.50** Варенье. **8.55, 16.55, 1.05, 5.05** Старинные русские усадьбы. **9.25, 13.25, 21.30, 1.35, 5.35** Безопасность. **9.55** У мангала. **10.45** Какая дичь! **12.55, 17.30** Праздник в дом. **21.00** Домик в Америке. **2.00** Не просто суп!

## Беларусь 1

**6.05** Х/ф **«ЗАМОК НА ПЕСКЕ».**

**7.55** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.40** Истории спасения.

**10.15** «Зона Х». Итоги недели.

**10.50** Маршрут построен.

**11.30** «Вопрос номер один».

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Т/с **«ОТЕЛЬ «ФЕНИКС».**

**14.25** Один день.

**15.15** Вокруг планеты.

**15.55** «Повод есть».

**16.30** Х/ф **«КРЫЛЬЯ ПОБЕДЫ».**

**16.45, 19.10** Х/ф **«ОНА СБИЛА ЛЕТЧИКА».**

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.30** Х/ф **«НЕЗАБЫТАЯ».**

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.

**8.00, 19.35** Телебарометр.

**8.05** Т/с **«КЛОН».**

**10.00** «Барышня-крестьянка». Реалити-шоу.

**11.10** Х/ф **«РУКА НА МИЛЛИОН».**

**13.20** «На ножах». Кулинарное реалити-шоу.

**14.20** «Папа попал». Реалити-шоу.

**16.15** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**17.15** Х/ф **«ДЖОН КАРТЕР».**

**20.05** «Орел и Решка. Перезагрузка Америка». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«ЭННИ».**

**23.35** «Любовь на выживание». Романтическое реалити-шоу. Заключительный выпуск.

## Беларусь 3

**7.10** «Аленький цветочек». Мультфільм.

**7.50** «Святыні Беларусі».

**8.15, 13.55** Навіны культуры.

**8.35** «Чалавек-аркестр». Мастацкі фільм.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Тушаная рэпа і салата з лебяды.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.50** «Свaімі словамі». Тэлевіктарына.

**12.30** «Пунсовыя ветразі». Мастацкі фільм [СТ].

**14.15** Канцэрт «Recordare» з удзелам Аксаны Волкавай, Надзеі Кучар, Паўла Пятрова.

**15.35** «Архітэктура Беларусі» [СТ].

**15.50** «Люблю і памятаю». Аўтарская праграма Уладзіміра Арлова. Народны артыст Беларусі Віктар Вуячыч.

**16.35** «Вяртанне «Святога Лукі». Мастацкі фільм [СТ].

**18.10** «Кадры жыцця». Фотамастак Міхаіл Маруга.

**19.05** «Каханне зямное». Мастацкі фільм [СТ].

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Лёс». Мастацкі фільм [СТ].

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.10** Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.30** Т/с **«ПЕТЕРБУРГ. ЛЮБОВЬ. ДО ВОССТРЕБОВАНИЯ».**

**11.25** «Видели видео?».

**12.25** Т/с **«ОТЕЛЬ СЧАСТЛИВЫХ СЕРДЕЦ».**

**16.20** «День семьи, любви и верности». Праздничный концерт.

**18.15** «Три аккорда». Новый сезон.

**20.00** Контуры.

**21.20** ОНТ представляет: Гала-концерт республиканского праздника «Купалье» («Александрия собирает друзей»).

**23.35** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.55** Какими вы не будете: «Лев Яшин. Вратарь моей мечты».

## СТВ

**6.35, 23.15** Т/с **«ТУРИСТЫ».**

**8.10** Документальный проект.

**9.05** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.00** «Знаете ли вы, что?».

**12.35, 13.40, 16.40** Т/с **«КАРПОВ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**21.05** Документальный спецпроект.

**22.00** «Засекреченные списки».

**0.45** «Секреты древних красавиц».

## Мир

**5.00, 3.20** Т/с **«БАЛАБОЛ».**

**5.10** Мультфильмы.

**5.45** Х/ф **«ПОДКИДЫШ».**

**7.05** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-ОРКЕСТР».**

**8.50** «Мировые леди». Мария Уваровская.

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.10, 16.15, 19.30, 1.00** Т/с **«ВАНГЕЛИЯ».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**1.55** Х/ф **«БЛИЗНЕЦЫ».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.10** «Тело человека».

**6.45** Беларусы.

**7.20** «50 рецептов первого».

**8.00, 10.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.45** «Города Беларуси».

**9.20** «Я хочу это увидеть!».

**10.20** «Квартирный вопрос. Ву».

**10.50** «Первая передача».

**11.20** «Чудо техники».

**12.10** «Дачный ответ».

**13.10** «НашПотребНадзор».

**14.05** Т/с **«ГОСУДАРСТВЕННАЯ ГРАНИЦА».**

**15.15, 16.20** «Следствие вели…».

**19.35** «Звезды сошлись».

**21.00** «Основано на реальных событиях» 4 с.

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.05** Х/ф **«ТОКСИЧНАЯ ЛЮБОВЬ».**

**10.30** Х/ф **«МЕЗАЛЬЯНС».**

**14.00** Х/ф **«ОТ ПРАЗДНИКА К ПРАЗДНИКУ».**

**15.50** «Парад юмора».

**16.40** Т/с **«ПОЛОСА ОТЧУЖДЕНИЯ».**

**20.00** ВЕСТИ.

**21.20** Х/ф **«ПОКА БЬЕТСЯ СЕРДЦЕ».**

**23.00** Х/ф **«ВТОРОЕ ДЫХАНИЕ».**

# кіно і спорт

### TV1000

**5.00, 1.30** Игры разумов. **7.05, 3.25** Пробуждение. **9.10** Код Да Винчи. **11.40** Ангелы и Демоны. **14.05** Зелёная миля. **17.25** С меня хватит. **19.25** Власть страха. **21.30** Идентификация. **23.00** Исчезнувшая.

### TV1000 ACTION

**5.10** Напролом. **6.40** Рокки. **8.40** Рокки 2. **10.45** Рокки 3. **12.25** Рокки 4. **14.00** Рокки 5. **15.45** Рокки Бальбоа. **17.25** Корабль-призрак. **19.00** Глубокое синее море. **20.40** Треугольник. **22.20** Анаконда. **23.45** Агент Джонни Инглиш. **1.20** Агент Джонни Инглиш: Перезагрузка. **3.10** Зачинщики.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**5.40, 3.30** Курьер из «Рая». **7.05** Коробка. **8.45** Вратарь Галактики. **10.40** Алёша Попович и Тугарин Змей. **12.05** Добрыня Никитич и Змей Горыныч. **13.15** Илья Муромец и Соловей-Разбойник. **14.40** Три богатыря и Шамаханская царица. **16.00** Три богатыря на дальних берегах. **17.15** Защитники. **18.50, 4.55** Майор Гром: Чумной Доктор. **21.25** Индиго. **23.00** Меченосец. **0.50** Подбросы. **2.10** Как Надя пошла за водкой.

### ТВ3

**6.00** Коллекция Беларусьфильма. **7.40** «Налегке». **8.15** Коллекция Беларусьфильма: «Государственная граница». **10.25, 22.35** «Смотри сам». **10.40** «Спасите, я не умею готовить!». **11.30** «Держись за облака». **16.05** Х/ф **«СЕЗОН ОХОТЫ 2».** **17.30** Т/с **«СВОДНЫЕ СУДЬБЫ».** **21.30, 5.10** «Дневник экстрасенса». **22.50** Большое кино: «Вокруг света за 80 дней». **1.20** «Грань». **2.50** «Викинги». **4.20** «Нечисть».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00** Т/с **«ЖАРКИЙ ЛЕД». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ПРИМАДОННА». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«ДЕРЕВЕНСКАЯ КОМЕДИЯ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«БЛУДНЫЕ ДЕТИ». 15.00, 23.00** Т/с **«ЖИЗНЬ, КОТОРОЙ НЕ БЫЛО». 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Т/с **«СЧАСТЛИВЫЙ СЛУЧАЙ». 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 2.00, 3.00** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК». 7.00** Т/с **«ПО ИМЕНИ БАРОН».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.55** Х/ф **«МУВИ 43». 3.20** Х/ф **«НОВЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ АЛАДДИНА». 5.15** Х/ф **«РОЖДЕСТВО С НЕУДАЧНИКАМИ». 7.05** Х/ф **«ЧУМОВЫЕ БОТЫ». 9.00** Х/ф **«ПЛЕЙБОЙ ПОД ПРИКРЫТИЕМ». 10.45** Х/ф **«ЛЮБОВЬ ОТ ВСЕХ БОЛЕЗНЕЙ». 12.40** Х/ф **«ПЕВЕЦ НА СВАДЬБЕ». 14.30** Х/ф **«МАСКА ЗОРРО». 17.00** Х/ф **«ЛЕГЕНДА ЗОРРО». 19.30** Х/ф **«СЕКС ПО ДРУЖБЕ». 21.30** Х/ф **«ПОЦЕЛУЙ НА УДАЧУ». 23.20** Х/ф **«СЕМЕЙНОЕ ОГРАБЛЕНИЕ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.00, 1.00, 1.55** Т/с **«ГУРЗУФ». 2.55, 3.40, 4.25, 5.20, 6.20, 7.15** Т/с **«УЧИТЕЛЯ». 8.10, 9.00, 10.05, 10.55, 22.05, 22.55** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА». 11.55, 12.55, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.05, 19.05, 20.05, 21.05** Т/с **«МОСГАЗ».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.25** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25, 15.35** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00, 2.40** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **11.00** Шоу «МИША ПОРТИТ ВСЁ». **12.00** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **12.50** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-ПАУК 3: ВРАГ В ОТРАЖЕНИИ». 16.30** Х/ф **«КУХНЯ В ПАРИЖЕ». 18.40** Х/ф **«КУХНЯ. ПОСЛЕДНЯЯ БИТВА». 21.00** Шоу «СТЕНДАП АНДЕГРАУНД». **22.05, 1.15** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **23.40** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **0.15** «КИНО В ДЕТАЛЯХ». **2.10** «ПРОСТО КУХНЯ». **3.30** Т/с **«ПАПИНЫ ДОЧКИ». 4.40** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.55** Теннис. Уимблдон. Женщины. Финал. **9.10** На пути к Токио. **9.40** Легкая атлетика. Молодежный чемпионат Европы. Таллин. **12.00** Художественная гимнастика. Кубок мира. Москва. **16.05** Теннис. Уимблдон. Мужчины. Финал. **19.35** Теннис. WTA. Гамбург. Финал. **21.20** Спорт-центр. **21.30** Футбол. Чемпионат Европы. Финал.

### EUROSPORT

**0.30** Ралли-рейд. «Шёлковый путь». 9-й этап. **0.45, 4.00, 9.30, 12.00** Велоспорт. «Тур де Франс». 14-й этап. **2.30, 7.00** Снукер. Чемпионат мира. Финал. Селби – Мёрфи. **6.00** Олимпийские игры. «Зал славы». Рио-2016. **10.30** Олимпийские игры. H2H: Джойнер-Керси – Эннис-Хилл. **11.00** Велоспорт. «Джиро д'Италия». Женщины. 9-й этап. **13.15, 21.30** Велоспорт. «Тур де Франс». 15-й этап. **19.00** ETCR. Кубок мира. Арагон. Финал. **19.30** Формула Е. е-При Нью-Йорка. Квалификация 2. **20.00** Формула Е. е-При Нью-Йорка. Вторая гонка. **22.45** Олимпийские игры. H2H: Карл Льюис – Усэйн Болт. **23.15** Олимпийские игры. «Дорога в Токио». Сёрфинг.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Авто: вторые руки. **6.30, 12.25, 16.45, 20.45, 0.15, 4.45** От Кавказа до Аравии. **7.05, 17.20** Это Родина твоя. **8.00, 10.25, 13.00, 16.30, 19.05, 23.35, 1.30, 4.00** Итоговые новости. **8.20** Возвращение легенды. **8.50** Испытание на прочность. **9.20, 10.55, 18.25** Всё включено. **9.55** Комплектация. **10.45** Автолайф. **11.15, 19.30, 23.00, 3.30** Всё о мото. **11.50, 20.00, 22.45, 23.55, 4.15** Тест с дядей Ваней. **13.20, 0.50** Байки про байки. **14.00, 1.45** Мото дуэль. **14.20, 2.00** Тест на «Драйве». **15.25, 5.40** Эконом-тест. **15.45, 22.00** Советы юриста. **21.20** Автовинтаж. **3.00** Сити-тестер. **5.15** Кругосветка по бездорожью.

### EXPLORE

**6.00, 6.50, 7.45, 8.35, 9.25, 10.20** Речные чудовища. **11.10** Винтажные электромобили. **12.00** Железная дорога во льдах. **12.50, 13.35, 14.20, 15.10, 15.55, 16.40, 17.30, 18.15, 19.00, 19.50, 20.35, 21.25, 22.10, 22.55, 23.45** Австралийские золотоискатели. **0.30, 0.55, 1.20, 1.45, 2.10, 2.35, 3.00, 3.25, 3.50, 4.15, 4.40, 5.05, 5.25** Нефритовая лихорадка.

### HISTORY

**6.10, 7.00** Очень странные экспонаты. **7.45** Тайны музеев. **8.35, 9.20, 10.15, 1.40, 2.25** Падение империи. **11.00, 11.55** Последний поход викингов. **12.50, 13.35** Вторая мировая война в цифрах. **14.25** Древние суперстроения. **15.20, 21.00** Империя с Майклом Портилло. **16.25, 22.05** Осада Мальты: воины Господа. **17.20, 23.00** Разгадка тайны пирамид. **18.10, 19.05, 20.00** Королева Виктория и ее девять детей. **23.50, 0.45** Вена: империя, династия и мечта. **3.10, 4.10** Наполеон. **5.10** Даты, вошедшие в историю. **5.40** Родовые проклятья.

### NATURE

**6.00, 3.55** Постыдные проблемы питомцев. **6.25** Медведь – спасатель коал. **7.15, 8.10** Как собаки и кошки захватили мир. **9.05, 10.05, 11.00** Загадки исчезнувших великанов. **11.55, 12.45, 13.40** Великая рифтовая долина – дикое сердце Африки. **14.30** Американская Арктика – заповедные земли под угрозой. **15.25, 16.20, 17.15, 18.05** Эпический Йеллоустоун. **19.00** Компания «Чарли Би». **20.00, 20.50, 21.40, 22.30, 23.25** Речные чудовища. **0.15** Невероятные встречи с животными. **1.05** Мутации погоды. **1.50** Выживание в дикой природе. **2.40** В зоопарке Таронга. **3.30** Спасение диких медведей. **4.20** Подработка в дикой глуши. **5.05** Опасные исполины.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 6.25** Зона строительства. **6.50, 7.40, 9.20** Экстремальный экспресс. **8.30** Расследование авиакатастроф. **10.10, 11.00** Остров бунтарей. **11.50, 12.35** Аляска: Новое Поколение. **13.25, 14.15** КОНТРАБАНДА С МАРИАННОЙ ВАН ЗЕЛЛЕР. **15.05, 16.00, 16.50, 17.45** Марс. **18.30, 19.20** Затерянные сокровища Египта. **20.10** Египет с величайшим исследователем в мире. **21.00** «Эффект с Галь Гадот». **22.55** Битва коллекционеров. **23.25** Необычные промыслы. **0.10, 1.00** Инстинкт выживания. **1.35, 5.40** Научные глупости. **2.00, 2.45** Авто-SOS. **3.30** Расследования авиакатастроф. **4.15, 5.00** Короли рыбалки.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 10.00, 22.05, 2.05** Охота и рыбалка в. **6.30, 22.35, 2.35** Егерский кордон. **7.00, 10.50, 23.10, 3.05** Нахлыст без границ. **7.25, 11.20, 15.25, 19.30, 23.40, 3.35** Мир рыболова. **8.00, 11.50, 0.10, 4.05** Рыболовные путешествия. **8.30, 12.20, 16.25, 20.30, 0.40, 4.35** Мир охотника. **9.00, 12.50, 16.55, 1.10, 5.00** Сомы Европы. **9.30, 5.35** Рыбалка сегодня XL. **10.30** Следопыт. **13.25, 1.40** Рыбалка 360. **13.55, 18.00** Экспедиции Андрея Старкова. **14.25, 18.30** В Индийском океане. **14.55** Блондинка на охоте. **15.55** Битва профессионалов. **17.30, 21.35** Рыболовная школа для взрослых. **19.00** Охоты и охотники. **19.15** Охотничье оружие. Вопросы эксперту. **20.00** Давай зарубимся! **20.15** Рыбалка сегодня. **21.00** На рыбалку с охотой.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.00, 22.00, 2.20** Прогулка по саду. **6.35 6.35 6.35, 10.25 10.25 10.25, 14.30 14.30 14.30, 18.35 18.35 18.35, 22.35 22.35 22.35, 2.50 2.50 2.50** ..И КОМПОТ! **6.45, 10.45, 14.45, 18.50, 22.50, 3.05** Готовим на Майорке. **7.00, 15.05, 19.10, 23.10, 3.20** Побег из города. **7.30, 11.30, 15.35, 19.40, 23.40, 3.50** Тихая моя родина. **8.00, 12.05, 16.05, 20.10, 0.10, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.25, 16.25, 20.30, 0.30, 4.35** Готовим на природе. **8.35, 12.40, 16.40, 20.45, 0.50, 4.50** Варенье. **8.50, 12.55, 1.05** Старинные русские усадьбы. **9.25, 13.25, 21.30, 1.35, 5.35** Безопасность. **11.00, 17.30** Праздник в дом. **16.55, 21.00, 5.05** Домик в Америке. **2.00** Не просто суп!

# Як жыла вандроўная тэатральная трупа з вёскі Шутавічы ў міжваенны час

*Заканчэнне. Пачатак у №26.*

СМАРГОНЬ

**Заканчваем расказваць пра тэатральны гурток Войцеха Шутовіча. Нагадаем, калектыў дзейнічаў у вёсцы Шутавічы на Смаргоншчыне ў канцы 1920-х.**

А вось прыклады ціску на шутавіцкіх беларускіх патрыётаў з боку ўладаў.

4 чэрвеня 1927 года, на другі дзень праваслаўнай Сёмухі, гурткоўцы вырашылі паказаць для аднавяскоўцаў спектакль па п'есе Францішка Аляхновіча «Птушка шчасця». Як тое і належала, яшчэ ў маі яны звярнуліся да павятовага старасты за дазволам зрабіць гэта. Звычайна праблем не ўзнікала: працэдура лічылася фармальнай. Дазвол прыходзіў у гмінны паліцэйскі пастарунак у Смаргоні, і яго можна было забраць за некалькі дзён да прадстаўлення.

2 чэрвеня гурткоўцы выслалі да пастарунка свайго чалавека па той дазвол, але там сказалі, што ён яшчэ не прыйшоў. Тое ж паўтарылася і на наступны дзень. У дзень запланаванага прадстаўлення дзяжурны па пастарунку сказаў, што папера з дазволам прыйшла, паліцэйскі павёз яе на роварах ў Шутавічы. Праўда, атрымаць той дазвол удалося не адразу. Усяляк ухіляючыся ад перадачы гурткоўцам дакумента, паперу ўручылі ім толькі праз дзве з паловай гадзіны пасля запланаванага на пачатак спектакля часу, калі гледачы і артысты ўжо змарыліся чакаць.

З ухмылкай аглядзеўшы падрыхтаваную сцэну і загрыміраваных артыстаў, паліцэйскі не спяшаючыся выняў патрэбную паперку з сумкі. Як высветлілася, павятовы староста гэтым разам адмовіў шутавіцкім артыстам у правядзенні прадстаўлення. Тлумачыў ён гэта тым, што ў заяўцы быццам бы не быў прадстаўлены склад тэатральнай трупы. Здзеклівыя паводзіны паліцэйскага былі непрыемным дапаўненнем да гэтай нечаканай навіны.

Іншым разам улады вырашылі ўчыніць ціск на гурток, праверыўшы справаводства. Калі аказалася, што ўсе паперы ва ўстанове ў парадку, рэвізоры ў справаздачы па выніках праверкі ўсё ж напісалі некалькі надуманых заўваг. Аднак гурткоўцы выказалі пратэст, і ўлады вымушаныя былі адступіць і напісаць так, як усё было насамрэч.

З цягам часу ў вясковых аматараў беларускага тэатральнага мастацтва пачало з'яўляцца яшчэ больш праблем. З кожным разам усё цяжэй і цяжэй было дабівацца ў гміннага і павятовага кіраўніцтва дазволу на правядзенне беларускамоўных прадстаўленняў. Польскім чыноўнікам ва ўсім падобным бачылася «пагроза грамадскай бяспецы». Хутка ўлады пастанавілі, што прадстаўленні на беларускай мове павінны ісці толькі ўслед за абавязковымі ў праграме польскамоўнымі. Праз нейкі час іх увогуле забаранілі, а кіраўніка шутавіцкага тэатральнага гуртка Войцеха Шутовіча за яго патрыятычную дзейнасць на два месяцы пазбавілі волі. У мудрагелістай драме рэальнага жыцця чужынцы дыктавалі беларусам свае сюжэты.



ꝍ Hurtok Bieł. Instytutu Hasp. i Kult. u w. Šutawičach, Ašmianskaha paw., wielmi śpiešna pracuje nad pastanoŭkaj wiečaryny-spektaklu ŭ Zapustnuju niadzielu (27-II-27). Budzie pastaŭlena trahi-kamedyja „Wybary Staršyni" J. Byliny.. Dapoŭniać wiečarynu referat, jaki pračytaje adzin z zaprošanych haściej, deklamacyi i tancy. Usio biełaruskaje sialanstwa, asabliwa moładź, z akaličnych wiosak wietliwa prosić ušanawać wiečarynu swajej prysutnaściu — Urad hurtka.

**Абвестка пра выступленне шутавіцкага тэатральнага гуртка ў газеце «Беларуская крыніца».**

Такім чынам, шутавіцкі гурток Інстытута гаспадаркі і культуры і тэатральная трупа пры ім былі да пачатку 1930-х гадоў ліквідаваныя. Але доўга яшчэ давала ведаць пра сябе засеянае гэтымі шчырымі патрыётамі ў душы землякоў зерне любові да роднай зямлі і мовы. І заходнебеларускія газеты яшчэ неаднойчы знаходзілі нагоду, каб згадаць Шутавічы ў сваіх матэрыялах.

Як пісала ў №17 за 1934 год «Беларуская крыніца», 25 сакавіка таго года жыхары Шутавічаў і суседніх вёсак з размахам адзначылі чарговую гадавіну ўтварэння Беларускай народнай рэспублікі. Святкаванне доўжылася каля трох гадзін. Напачатку ўсе прысутныя ўшанавалі хвілінай маўчання памяць барацьбітоў, якія паклалі галовы за волю і лепшую долю беларускага народа. Затым з лекцыяй аб ідэалах беларускай дзяржаўнай незалежнасці выступіў ураджэнец гэтай вёскі, вядомы ў будучым грамадскі і культурны дзеяч, а на той час студэнт Віленскага ўніверсітэта **Янка Шутовіч**. Пасля, праспяваўшы хорам песню «Не пагаснуць зоркі ў небе», жыхары вёскі і госці распачалі святочны канцэрт і народныя гулянні.

Газета паведамляе таксама, што «дзеля надання ўрачыстага характару для народнага беларускага сьвята», за некалькі дзён да яго вяскоўцы, у складчыну сабраўшы грошы на тканіну, пашылі вялікі бел-чырвона-белы сцяг. У дзень святкавання з самай раніцы яго павесілі над вуліцай. Вісеў да таго часу, пакуль нехта з праціўнікаў беларушчыны не паведаміў пра яго ў смаргонскую паліцыю. Праз нейкі час тая прыбыла і канфіскавала сцяг. Удзельнікі святкавання, нязгодныя з учынкам паліцыі, вырашылі апратэставаць яе незаконныя дзеянні. Чым закончылася справа, не паведамляецца.

І яшчэ адзін эпізод. Ёсць скупая інфармацыя пра тое, як закончыўся жыццёвы шлях былога кіраўніка шутавіцкага тэатральнага гуртка Войцеха Шутовіча. Ужо ў час нямецкай акупацыі, калі Янка Шутовіч знаходзіўся ў Астраўцы, яго забілі паліцаі, якія прыслужвалі немцам, але паходзілі з колішніх «саламяных палякаў». У чарговы раз перарадзіўшыся, тыя працягвалі тварыць свае чорныя справы супраць супляменнікаў, якія не здраджвалі сваім продкам, ва ўсе часы і пры любых абставінах заставаліся беларусамі.

**Аляксандр КАМІНСКІ, Крэва.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

## Крывавыя лічбы Другой сусветнай вайны

**Прапануем чытачам некалькі лічбаў Другой сусветнай вайны. Дадзеныя ўзятыя з адкрытых інтэрнэт-крыніц.**

| | |
|---|---|
| **1,24 мільёна савецкіх грамадзян** | змагаліся на баку нацыстаў. З іх беларусаў – 20 тысяч |
| **1,350 мільёна чалавек** | дэпартаваныя ў 1941-1945 гадах у аддаленыя раёны СССР |
| **2 503 663 чалавекі** | за 1941-1945 асуджаныя ваенным трыбуналам да рознай ступені адказнасці |
| **157 593 чалавекі** | прыгаворам ваеннага трыбунала расстраляныя |
| **427 910 чалавек** | накіраваныя ў штрафбаты змываць крывёй сваю віну |
| **54 генералы і адміралы** | расстраляныя сваімі, памерлі ў савецкіх турмах |
| **2,570 мільёна чалавек** | сталі інвалідамі вайны |
| **457 тысяч чалавек** | пасля вайны не мелі адной або некалькіх канечнасцей |
| **678 тысяч дзяцей** | засталіся сіротамі |
| **27 мільёнаў** | агульная лічба загінулых грамадзян СССР, згодна з большасцю даследаванняў. |
| **5 мільёнаў чалавек** | страты Германіі загінулымі і памерлымі на Усходнім фронце |

**Падрыхтаваў Віктар ГОЛУБ, Маладзечна.**

● КАЛЯНДАР

2 ЛІПЕНЯ

**2012.** Памёр беларускі грамадска-палітычны дзеяч **Сяржук Вітушка**, кіраўнік мінскага таварыства «Талака», гісторык і педагог, аўтар казак для дарослых і дзяцей. Нарадзіўся 10 красавіка 1965 года ў Чысці, пахаваны ў вёсцы Рагава паблізу Радашкавічаў.



3 ЛІПЕНЯ

**1944.** Ад нямецкіх захопнікаў вызваленыя Мінск, Радашкавічы, Ільля, Даўгінава, Астравец.

4 ЛІПЕНЯ

**1889.** Нарадзілася **Ганна Рагель**, в. Белыя Маладзечанскага раёна. Памерла ў Маладзечне ў 2010 ва ўзросце 121 год. Была найстарэйшай жыхаркай Беларусі.

5 ЛІПЕНЯ

**1944.** Ад нямецкіх захопнікаў вызваленыя Валожын, Маладзечна, Смаргонь.

6 ЛІПЕНЯ

**1927.** У вёсцы Літва на Маладзечаншчыне нарадзіўся беларускі мастак **Кастусь Харашэвіч**. Аўтар кнігі ўспамінаў «Зведанае і перажытае», 2004. У філіяле дзяржаўнага літаратурнага музея імя Янкі Купалы ў Яхімоўшчыне працуе персанальная галерэя. Памёр у 2013 у Маладзечне.

**1934.** Створаны Бяроза-Картузскі канцэнтрацыйны лагер (у некаторых крыніцах 12 або 17 ліпеня). Месца пазасудовага інтэрнавання палітычных апанентаў Пілсудскага. Вязнямі канцлагера ў розныя часы былі нашы землякі **Сцяпан Бурак** з Мойсічаў, ураджэнец Маладзечна **Мікалай Ганецкі**, **Уладзімір Новік** са Смаргоншчыны, **Янка Шутовіч** і іншыя.

7 ЛІПЕНЯ

**1864.** Адкрыта Маладзечанская настаўніцкая семінарыя. Месцілася на Замкавай вуліцы. Рыхтавала настаўнікаў пачатковых школ. Існавала да 1920 года. У 1915 годзе пераведзеная ў Смаленск. Семінарыю скончылі дзве тысячы чалавек. Сярод навучэнцаў **Флягонт Валынец**, **Міхась Чарот**, **Міхась Забэйда-Суміцкі**.

8 ЛІПЕНЯ

**1974.** У Валожыне нарадзілася расійская спявачка **Дзіяна Арбеніна**.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Чаму Ядвіга Раздзялоўская так любіла малявац сіні цень

**Разам з Мінскім абласным краязнаўчым музеем мы працягваем знаёміцца з мастакамі, чый лёс звязаны з Маладзечаншчынай і чые працы захоўваюцца ў фондах установы.**

У другім выпуску расказваем пра адметнасць творчасці Ядвігі Раздзялоўскай.

Пра мастакоў, карціны і іх адметнасці расказвае навуковы супрацоўнік Мінскага абласнога краязнаўчага музея **Таццяна Беразавец**.

### Засталася ў Беларусі з-за кахання

Ядвіга Раздзялоўская нарадзілася ў першы дзень вясны, 1 сакавіка 1902 года, у польскім горадзе Белая Падляская ў сям'і Лясеўскіх. Вучылася ў люблінскай прамыслова-мастацкай школе, дзе вучні развівалі мадэрнісцкае мысленне.

> У Беларусі Ядвіга апынулася ў якасці бежанкі падчас Другой сусветнай вайны.

У час вайны ў Баранавічах сустрэла каханне – **Вадзіма Раздзялоўскага**, за якога выйшла замуж. У 1948 годзе стала сябрам Беларускага саюза мастакоў, удзельнічала ў выставах. Неўзабаве сям'я пераехала ў Маладзечна. Верагодна, з-за таго, што мужа накіравалі на працу на маладзечанскі гармалзавод. Аднак у якім годзе гэта адбылося, дакладна невядома.

Менавіта Раздзялоўская стаяла ля вытокаў развіцця Маладзечна ў мастакоўскі горад, як яго называў яе калега **Кастусь Харашэвіч**. Але пры гэтым пра пані Ядзю – так яе называлі беларускія калегі – вельмі мала дакументальных звестак, пра яе няма персанальных кніг. Яе памяць ушанавалі мемарыяльнай дошкай на доме, у якім жыла мастачка, – адразу насупраць маладзечанскага райвыканкама. А ў 1982 годзе творцу ўганаравалі званнем «Заслужаны дзеяч культуры Польшчы».

Яна была пачынальнікам народнай мастацкай студыі для дарослых у Маладзечне, да працы якой пасля далучыўся Харашэвіч. Дзякуючы ім супольнасць мастакоў ядналася і развівалася, а культурнае жыццё ў Маладзечне бурлілася. У Харашэвіча з Раздзялоўскай нават ёсць сумесная праца 1960-х гадоў, якую выканалі па заказе Мінскага абласнога краязнаўчага музея – «Сустрэча Чырвонай Арміі з насельніцтвам Заходняй Беларусі ў горадзе Маладзечна», прысвечаная падзеям 17 верасня 1939 года. Сёлета музей плануе гэта палатно экспанаваць.

> Раздзялоўская часта збірала мастакоў. У тым ліку на вечарыны, дзе дзяліліся думкамі і слухалі музыку.

Не стала Ядвігі Язэпаўны ў 1992 годзе.

### Чыстыя колеры і сіні цень

У творчасці мастачкі больш нацюрмортаў, хаця ў фондах Мінскага абласнога краязнаўчага музея сярод твораў Раздзялоўскай больш захоўваецца партрэтаў. Ёсць і пейзажы.

– Яна вельмі мянялася ў творчасці, – расказвае Таццяна Беразавец. – Многія работы ёсць як вельмі стылізаваныя – дэкаратыўныя, амаль манахромныя, так і такія, што пайшлі далёка ў мадэрн – з сінімі ценямі. Але разам з тым усе яе працы светлыя, як яна сама.

> Раздзялоўская шмат працавала пераважна ў тэмперы – воднай фарбе, якую рыхтуюць з парашковых пігментаў. Часам выкарыстоўвала вугаль.

– Усе яе працы вельмі свецяцца сонцам, – расказвае Беразавец. – Заўсёды адчуваецца, адкуль ідзе святло, якое пранізвае ўсе прадметы. У Раздзялоўскай шмат чыстых колераў і сініх ценяў. Блакітна-ультрамарынавы колер вельмі падкрэслівае сонечнасць. Наўрад ці ў яе жыцці заўсёды ўсё было гэтак жа сонечна.

Навуковы супрацоўнік патлумачыла, што многія мастакі любяць блакітна-сінія колеры. Таму што калі рабіць цень блакітнай, то на працы не з'яўляецца бруду. Пры гэтым колер у кантрасце з жоўтым падкрэслівае святло апошняга.

– Як яна раскрываецца ў нацюрмортах! Яна такая розная ў іх. Па карціне адразу відаць, якія перамены ў жыцці аўтара.

У мастачкі быў перыяд, калі яна працавала ў Дагестане. У гэтых працах змяняецца напаўненне нацюрморта – з'яўляюцца лімоны, магноліі.

### Пісала характарныя партрэты

Другая лінія яе творчасці – партрэты. Усе яны вельмі характарныя. Па выяве відаць, што аўтар патрапіла з адлюстраваннем чалавека ў яблычак. Заўважае характэрныя рысы, узрост. Нават эскізныя малюнкі вугалем хаця і лёгкія, хуткія, але характар адразу злоўлены.

Адна з выбітных прац Раздзялоўскай – «Рабінка». Дзяўчына трымае ў руках галінку з ягадамі. Такога ж рабінавага колеру яе пінжак, які дае блікі на белую хустку, і сама яна з заўважным румянцам. Атрымалася такая дзяўчына-рабінка.

У Іллі Машкова ёсць карціна «Дзяўчына». Выява дзяўчыны Раздзялоўскай на гэтай старонцы газеты нагадвае працу расійскага мастака. Яе твар выглядае цёмным – падобна, на той час была модная такая адметнасць. Працы нават па каларыце блізкія.

> Твор Раздзялоўскай «Дзяўчына» цудам выратавалі ад агню – выпадкова чалавек убачыў лагатып і прынёс працу ў музей.

У фондах Мінскага абласнога краязнаўчага музея ёсць сем работ Раздзялоўскай. Музей імкнецца пашырыць калекцыю яе прац і інфармацыю пра саму мастачку.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77



Фотаздымкі з фондаў Мінскага абласнога краязнаўчага музея.

Карціна Ядвігі Раздзялоўскай – выява дзяўчыны. Менавіта ў гэтай працы можна знайсці падабенства з работамі Іллі Машкова.



Нацюрморт Ядвігі Раздзялоўскай.




Фота Настассі УТКІНАЙ.






Падчас сустрэчы «ЭкаЛагічна» ў Маладзечне.

# Што адбываецца, калі мастацтва нараджаецца з экалогіі

**Супольнасць актывістаў «InspiredBYМаладзечна» зладзіла сустрэчу «ЭкаЛагічна» для тых, каму важная гармонія з прыродай.**

На сустрэчы маладзечанка **Ганна Сафонава** расказала пра экалагічныя актыўнасці, які адбыліся ў Маладзечне цягам апошніх год. Напрыклад, дзякуючы ініцыятыве неабыякавых жыхароў адмянілі запуск паветраных шароў падчас выпускнога балю. Гэта традыцыя можа выглядаць эфектна, але гэтыя некалькі хвілін вельмі дорага каштуюць птушкам і ўвогуле прыродзе. Рэшткі шароў раскідваюцца ў самых розных месцах, адкуль іх ніхто не прыбірае.

### «Успрымаць сябе цэнтрам прыроды – памылка»

Мастак **Базіната** расказаў пра тое, чаму для яго важна прытрымлівацца экалагічна дружалюбнага ладу жыцця, а таксама як смецце становіцца матэрыялам для арт-аб'ектаў:

– Калі ты адзін выкінуў пластыкавы кубачак, у гэтым няма трагедыі, калі ж так зробяць шэсць мільярдаў чалавек – то гэта глабальная з'ява. Раскажу, як я выкарыстоўваю смецце ў мастацтве.

Калі ствараеш аб'ект з рэчаў, якія былі ў карыстанні, то, па-першае, на гэту рэч пакуль разгружаеш сметніцу. А па-другое, для новага матэрыялу неабходна прайсці шмат вытворчых працэсаў, транспарціроўку. Усё гэта пакідае сур'ёзны вугляродны след, які спатрэбіцца кампенсаваць прыродзе.

– Калі я азадбляў маладзечанскі клуб «Клаб», то ўсе прадметы інтэр'ера ствараў са смецця, якое да ўсіх плюсаў і дасталася мне бясплатна. Канапы рабіў з адзення з сэканд-хэнда, некаторыя аб'екты – са старых дзвярэй. Ідэя ў тым, каб максімальна прадоўжыць жыццё матэрыялу.

Адна з мастацкіх ідэй Базіната – антыпудзілы. Мастак зрабіў альтэрнатыву пудзілам, якія робяць з мёртвых жывёл. Ён выконвае свае з фанеры або іншых матэрыялаў, а прастору ўнутры займае смеццем, якое не псуецца. А вочы зрабіў з пафарбаваных сушак. Адна з мастацкіх серый Базіната прысвечаная беларускім язычніцкім багам. Задума серыі ў тым, што іх выцеснілі з гісторыі, але памяць пра іх засталася.

– З аднаго боку, мы гаворым, што неабходна берагчы прыроду. А з іншага – усе мы пакідаем вялізны смеццевы след. Успрымаць сябе як цэнтр прыроды – вялікая памылка. Гэту пазіцыю неабходна мяняць і ўсвядоміць сябе як частку прыроды. Калі можаш выкарыстоўваць матэрыял другі раз – выкарыстоўвай.

> **У нас ва ўсіх шмат рэчаў, але мы хочам яшчэ больш. І калі кожнаму даць усё, што ён хоча, адбудзецца страшнае.**

### Ідэі, як спажываць менш і застацца не менш шчаслівым

На сустрэчы мастачка **Яна** правяла майстар-клас, на якім паказала, як са старых рэчаў зрабіць новыя. Адзін з простых спосабаў – праштампаваць на адзенні выявы раслін фарбай.

Таксама ўдзельнікі падзяліліся ідэямі, што можна зрабіць для змяншэння спажывання. Рэчы, якія ўжо не трэба, можна перадаваць тым, каму яны спатрэбяцца. Арганізаваць арэнду посуду, які можна браць на прыроду, каб не купляць шматразовы пластыкавы. А таксама зладзіць у горадзе палічкі, дзе можна абменьвацца кнігамі і ладзіць фры маркеты – кірмашы, дзе аддаюць рэчы задарма.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**




Дапамога Беларусі з боку ЕС у межах Еўрапейскага інструмента суседства за 2014-2018 гады склала 110 мільёнаў еўра.

# Беларусь прыпыняе ўдзел у праграме «Усходняе партнёрства». Што рэалізавалі за гэты час у рэгіёне

**Беларусь прыпыняе ўдзел у еўрапейскай ініцыятыве «Усходняе партнёрства». «Рэгіянальная газета» расказвае, як праект Еўрасаюза «Усходняе партнёрства» паўплываў на жыццё рэгіёна.**

### Чаму Беларусь прыпыняе ўдзел ва «Усходнім партнёрстве»

28 чэрвеня Міністэрства замежных спраў Беларусі паведаміла, што прыпыняе ўдзел у праекце ў сувязі з немагчымасцю выконваць свае абавязацельствы ва ўмовах санкцый, якія ўвёў Еўрасаюз. Нагадаем, што Еўрапейскі саюз увёў персанальныя санкцыі і санкцыі супраць прадпрыемстваў – гэта ўжо чацвёрты пакет санкцый супраць беларускіх уладаў пасля прэзідэнцкіх выбараў у жніўні 2020 года. Рашэнне ўвесці санкцыі Рада ЕС патлумачыла «эскалацыяй сур'ёзных парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі і гвалтоўных рэпрэсій супраць грамадзянскай супольнасці, дэмакратычнай апазіцыі і журналістаў, а таксама асоб, якія належаць да нацыянальных меншасцяў».

Прыпыненне ўдзелу ў ініцыятыве «Усходняе партнёрства» – не адзіны крок беларускіх уладаў. Пагадненне аб рэадмісіі з ЕС таксама прыпыняецца, кіраўніку прадстаўніцтва ЕС у Беларусі прапанавалі выехаць у Брусель, а адказным за ўвядзенне санкцый забароняць уезд у нашу краіну.

«Усходняе партнёрства» – праект Еўрапейскага саюза, мэтай якога з'яўляецца развіццё інтэграцыйных сувязяў з шасцю краінамі былога СССР: Азербайджанам, Арменіяй, Беларуссю, Грузіяй, Малдовай і Украінай. Супрацоўніцтва паміж імі пачалося ў самых розных галінах – ад умацнення эканамічных сувязяў да вырашэння экалагічных праблем і моладзевых абменаў.

### «Усходняе партнёрства» і Беларусь

ЕС з'яўляецца другім па велічыні гандлёвым партнёрам Беларусі, на долю якога прыпадае амаль траціна агульнага тавараабароту краіны. Ад 2009 года, калі пачалося «Усходняе партнёрства», гандлёвыя патокі паміж Беларуссю і ЕС павялічыліся на 18,5%.

110 мільёнаў еўра – столькі склала дапамога Беларусі з боку ЕС у межах Еўрапейскага інструмента суседства за 2014-2018 гады.

У Беларусі больш за чатыры тысячы кампаній скарысталіся крэдытамі, трэнінгамі і кансультацыямі пры падтрымцы ЕС, што прывяло да стварэння звыш чатырох тысяч працоўных месцаў. Тысячы беларусаў падарожнічаюць у Еўропу і прымаюць удзел у абменах, падтрыманых ЕС: каля трох тысяч студэнтаў і супрацоўнікаў універсітэтаў атрымалі магчымасць вучыцца або выкладаць у краінах ЕС ад 2009 года ў рамках праграмы Erasmus+.

### Чым «Усходняе партнёрства» было карысным для рэгіёна

«Рэгіянальная газета» расказвае, як удзел Беларусі ва «Усходнім партнёрстве» паўплываў на жыццё нашага рэгіёна на прыкладзе людзей і гарадоў.

У 2016 годзе былы старшыня Вілейскага райвыканкама **Віктар Кот** прымаў удзел у міжнароднай канферэнцыі «Садзейнічанне ўстойліваму развіццю краін Усходняга партнёрства».

**Падчас канферэнцыі адбылося падпісанне «Пагаднення мэраў» – ініцыятывы Еўрапейскага саюза па энергіі і клімату, накіраванае на змяншэнне выкідаў парніковых газаў і развіццё «зялёнай эканомікі». Такім чынам, Вілейка далучылася да гэтай ініцыятывы.**

У 2017 годзе Вілейка атрымала новы смеццявоз і 100 кантэйнераў для паасобнага збору адходаў у межах праекта ЕС.

**Андрэй Мікульчык** з Маладзечна ў рамках праекта ЕС «МОСТ» удзельнічаў у італьянскім фестывалі опернай музыкі. У межах гэтага курсу маладзечанец прайшоў курс навучання, а цяпер хоча Міжнародную оперную студыю для маладых спевакоў, удзельнікі якой будуць выступаць у розных беларускіх гарадах.

**Яшчэ адзін маладзечанец Павел Палубінскі быў паслом еўрапейскай моладзі. У межах гэтай ініцыятывы маладыя людзі з шасці краін Усходняга партнёрства ўдзельнічаюць у адукацыйных і развіццёвых праграмах, а пасля дзеляцца атрыманым досведам з равеснікамі на радзіме.**

У 2018-2019 гадах у Смаргоні рэалізавалі ініцыятыву «Разам да здароўя» ў конкурсе праектаў Еўрасаюза БЕЛМЕД. Каардынатар ініцыятывы **Святлана Бурко** расказвала карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты», што 600 сталых жыхароў Смаргоншчыны навучылі правільна мераць ціск, узровень цукру і якую першую медыцынскую дапамогу можна аказаць, пакуль едзе «хуткая дапамога».

У Камарове ў Мядзельскім раёне працуе бізнес-інкубатар, у якім **Эдуард Вайцяховіч** дапамагае прадпрымальнікам з рэгіёна ствараць свой малы бізнес. У Валожыне павінны запрацаваць турыстычны цэнтр і хостэл, даступны для людзей з інваліднасцю. У гэты і іншыя праекты для прапановы сацыяльных і рэкрэацыйных паслуг для людзей з інваліднасцю ў Валожынскім раёне ў рамках праекта ЕС уклалі больш за мільён еўра.

Ад 2018 года ЕС аказвае падтрымку праекту «Укараненне мерапрыемстваў па энергаэфектыўнасці для ўстойлівага энергетычнага развіцця Ашмянскага раёна Беларусі». Гэты праект уключаў у сябе цеплавую мадэрнізацыю ясляў-сада №3 у Ашмянах.

**Настасся УТКІНА.**

# Як беларусы ў Варшаве адзначылі Купалле

**У ноч з 26 на 27 чэрвеня на беразе Віслы ў Варшаве беларусы адзначылі Купалле. Сярод іх была і маладзечанка Яўгенія Прыгодзіч з сям'ёй. «Рэгіянальная газета» пагутарыла з жанчынай пра тое, як святкаванне ўспрымаецца за сотні кіламетраў ад радзімы.**



Фота Яўгеніі ПРЫГОДЗІЧ.

Беларускі хор спявае на борце чоўна.



Беларусы ідуць кідаць вянкі ў Віслу.



Лявон Вольскі спявае падчас святкавання Купалля.

### «Лепшае Купалле ў маім жыцці»

Купалле ў Варшаве арганізавалі Беларускі хор у Варшаве і Інстытут беларускай культуры. Як расказала Яўгенія нашаму карэспандэнту, размеркаванне абавязкаў па падрыхтоўцы праходзіла сярод усіх удзельнікаў свята, людзі самаарганізаваліся: прынеслі сцягі, калонкі, зрабілі святло і гук.

Адным з ініцыятараў правядзення Купалля выступіла **Вольга Гардзейчык-Мазярска**. Жанчына ўжо доўгі час жыве ў Польшчы, але родам з Беларусі. У Варшаве яна вядзе беларускі дзіцячы тэатр, у якім займаецца дачка Яўгеніі Вера.

– Купалле было выдатнае. Гэта лепшае Купалле ў маім жыцці. Было вельмі весела, сяброўская і сямейная атмасфера. Там сустрэла шмат знаёмых з Беларусі, нават з Маладзечна, – успамінае маладзечанка.

Яўгенія падзялілася, што яе ўразіла адсутнасць польскай паліцыі на святкаванні, а польскія ўлады ніякім чынам не ўмешваліся ў яго.

– Гэта так уражвае, бо я ўяўляю, як выглядаюць святы ў Беларусі – «Славянскі базар» ці маладзечанскі фестываль. Калі ў арганізацыі ўдзельнічае такая махіна, як дзяржава, а ў выніку атрымліваецца тухлае свята, на якое не хочацца ісці.

Маладзечанка бачыць адрозненне ў тым, што на Купалле ў Варшаве людзі прыйшлі па ўласным жаданні і рабілі ўсё самі. Па словах Яўгеніі, не хацелася нават сыходзіць са свята.

### Замест вогнішча быў бел-чырвона-белы сцяг

Для дзяцей узялі фрысбі, мячыкі. Адна з жанчын правяла майстар-клас па пляценні вянкоў. Яна прынесла ўсе травы сама, усе ахвотныя маглі павучыцца, як зрабіць купальскі вянок. Таксама падчас святкавання адбыўся майстар-клас па танцах.

– Муж з жонкай вучылі танцаваць. У мужчыны была такая дуда, на якой ён іграў. Нікога не трэба было прымушаць, усе хацелі танцаваць і рабілі гэта з задавальненнем.

Сярод удзельнікаў свята праводзілі латарэю: за пяць злотых можна было купіць квіток і выйграць цікавыя прызы. Яўгенія кажа, што прадалі каля 200 квіткоў. Напрыклад, можна было выйграць прагулку па Вісле ці сустрэчу з рэдакцыяй «Выборчай».

Маладзечанка дадае, што да беларусаў далучалася святкаваць шмат палякаў, якія адпачывалі на беразе Віслы. Справа ў тым, што на тым пляжы, дзе адбывалася Купалле, традыцыйна збіраюцца палякі для адпачынку, нават і ў будні. Яўгенія кажа, што ў палякаў ёсць аналагічнае свята «Вянкі», то ім былі зразумелыя традыцыі беларусаў.

– Шмат палякаў адсвяткавалі разам з намі, атрымалася такое мультыкультурнае свята. Канешне, беларусаў было больш. У нейкі момант мне стала сумна, што нас так шмат і мы ўсе такія класныя, а хто тады застаўся ў Беларусі?

> **Беларусь страціла шмат творчых людзей, якіх я пабачыла ў Варшаве.**

Яўгенія адзначае, што адзінага, чаго не было – купальскага вогнішча. Яна кажа, што з кастрамі ў Польшчы вельмі строга. У той час у Варшаве было спякотна. Таму арганізатары вырашылі не парушаць правілы і не прыцягваць лішняй увагі.

– У нас замест вогнішча быў сцяг. Усе актыўнасці мы праводзілі каля бел-чырвона-белага сцяга.

### Знакамітыя госці на Купаллі

26 чэрвеня праходзіў канцэрт у падтрымку палітычных зняволеных у Варшаве. Пасля яго на Купалле на Вісле да беларусаў завітаў спявак **Лявон Вольскі**. Яўгенія ўспамінае, што для Вольскага не рабілі адмысловай канцэртнай сцэны. Людзі сталі каля яго з бел-чырвона-белымі сцягамі.

– Усё было так па-сямейнаму. Быццам бы сабраліся ў кагосьці на кухні ці на лецішчы. Пры гэтым мы былі на гарадскім пляжы, ніхто нас не турбаваў. Усе былі аб'яднаныя адной агульнай ідэяй.

Да святкавання Купалля далучыўся палітык **Павел Латушка**. Па словах Яўгеніі, для ўсіх людзей і арганізатараў таксама гэта стала нечаканасцю.



Тэкст і фота –
Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Што адбываецца з Аляксеем Кудзіным, якога з зімы трымаюць у расійскім следчым ізалятары

**25 чэрвеня Маскоўскі абласны суд адхіліў скаргу абаронцаў Аляксея Кудзіна на рашэнне аб экстрадыцыі ў Беларусь. «Рэгіянальная газета» расказвае, што цяпер адбываецца з маладзечанскім адзінаборцам.**



Кудзін (у кепцы) падчас пратэснай акцыі ў Маладзечне 10 жніўня 2020 года.

### Паўгода ў следчым ізалятары ў Расіі

25 чэрвеня Маскоўскі абласны суд адхіліў скаргу абаронцаў маладзечанскага адзінаборцы на рашэнне аб экстрадыцыі ў Беларусь. Ужо прайшло больш за паўгода, калі Кудзіна затрымалі ў Маскве па просьбе беларускіх сілавікоў. Генпракуратура Беларусі чакае экстрадыцыі маладзечанца для суда па артыкуле за супраціўленне супрацоўнікам органаў унутраных спраў.

Адвакат Кудзіна **Марыя Красава** ў каментары «Трыбуне» запэўніла, што прысуд Маскоўскага абласнога суда яшчэ будуць аспрэчваць у Апеляцыйным судзе.

– У нас ёсць некаторыя сумневы ў тым, што Апеляцыйны суд задаволіць нашу скаргу – на жаль, вельмі рэдка, калі расійскія суды не падтрымліваюць пазіцыю Генеральнай пракуратуры Расіі. Таму, вычарпаўшы магчымасці абароны Кудзіна ў расійскіх судах, мы будзем звяртацца ў Еўрапейскі суд па правах чалавека.

### У чым абвінавачваюць Кудзіна ў Беларусі

У лістападзе 2020 года Аляксея Кудзіна павінны былі судзіць у судзе Маладзечанскага раёна. У суд Кудзін не з'явіўся, а міліцыянеры не знайшлі яго дома, дзе ён знаходзіўся пад дамашнім арыштам. Затым суддзя **Вольга Дубовік**, што вяла судовы працэс, аб'явіла адзінаборцу ў вышук.

Аляксея Кудзіна абвінавачваюць у супраціўленні супрацоўнікам органаў унутраных спраў падчас пратэснай акцыі на маладзечанскай плошчы 10 жніўня 2020 года. Кудзін расказваў, што падчас зачысткі плошчы сілавікі некалькі разоў ударылі яго, пасля чаго ён аўтаматычна пачаў адмахвацца і абараняцца. Па яго словах, ён ударыў некалькі сілавікоў. Кудзіна затрымалі ў той жа вечар, калі ён ехаў у бальніцу.

Амаль два тыдні адзінаборца знаходзіўся ў следчым ізалятары ў Жодзіне, але яго адпусцілі пад дамашні арышт.

### Як Кудзін трапіў у Расію

Аляксей Кудзін знік у дзень суда. У сацыяльных сетках пасля знікнення ён прызнаваўся, што яго перавозілі ў багажніку аўтамабіля. Кудзін не расказваў, дзе знаходзіўся. Адзінаборцу знайшлі расійскія сілавікі ў Маскве на кватэры яго сябра.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

---

## ФК «Маладзечна» прайграе ў 1/16 Кубка Беларусі

23 чэрвеня маладзечанскія футбалісты ўсухую прайгралі «Энергетыку-БДУ» ў 1/16 Кубка Беларусі. Такім чынам, «Маладзечна» завяршае сваю кубкавую вандроўку.

Фінальны лік – **0:4**. Галы забівалі **Уладзіслаў Васільеў**, **Данііл Мірошнікаў**, **Мамаду Адама Дыяла**, **Андрэй Рылач**.

Нагадаем, «Энергетык» гуляе ў вышэйшай лізе Беларусі. На дадзены момант займае 10-е месца ў турнірнай табліцы.

**Настасся УТКІНА.**

## Перамогі «Маладзечна» і «Астраўца». Як прайшлі футбольныя выхадныя ў рэгіёне

**ФК «Маладзечна».** Маладзечанскія футбалісты перамаглі каманду з Узды – **4:1**. У першым тайме адзначыліся гульцы маладзечанскай каманды **Артур Сарамаха** і **Раман Бурак**. У другім тайме Артур Сарамаха забівае свой другі гол, а ў адказ ФК «Маладзечна» атрымлівае гол ад «Узды» ў выкананні **Уладзіслава Вараксы**. Напрыканцы гульні ў вароты супернікаў забіў мяч **Аляксей Лотыш** з маладзечанскага клуба. ФК «Маладзечна» цяпер на трэцім радку турнірнай табліцы другой лігі ў Мінскім дывізіёне, групе «Поўнач».

**ФК «Вілія».** Вілейчукі скончылі матч 9-га тура супраць «Крупак» унічыю – **1:1**. За вілейскую каманду адзначыўся **Міхаіл Рудовіч**. «Вілія» займае сёмае месца ў другой лізе. 1 ліпеня ФК «Маладзечна» і ФК «Вілія» згуляюць у Вілейцы.

**ФК «Астравец».** Астраўчане грамяць «Масты» ў выязной сустрэчы – 5:0. Галы забівалі **Сяргей Новік**, **Аляксандр Буцько**, **Аляксей Хадневіч** аформіў хет-трык. «Астравец» – на першым месцы ў Гродзенскім дывізіёне другой лігі. У наступным туры астраўчане згуляюць супраць «Свіслачы», гульня адбудзецца 3 ліпеня.

**ФСК «Ашмяны».** Ашмянская каманда зарабіла сабе тэхнічнае паражэнне – 0:3, бо футбалісты не прыехалі на сустрэчу. «Ашмяны» павінны былі згуляць супраць «Шчучына». Цяпер ФСК знаходзіцца на перадапошнім месцы ў Гродзенскім дывізіёне. Наступны сапернік ашмянцаў – «Цэментнік», матч пройдзе 3 ліпеня.

**«Смаргонь».** «Смаргонь» прайграла «Гомелю» – **1:2**. За смаргонскую каманду гол забіў **Сяргей Бандарэнка**, за гамяльчан – **Аляксандр Васільеў** са штрафнога і **Арцём Васькоў**.

«Смаргонь» па-ранейшаму знаходзіцца на перадапошнім радку турнірнай табліцы вышэйшай лігі. Наступны матч для «Смаргоні» пройдзе супраць «Мінска» 2 ліпеня.

**Настасся УТКІНА.**

## Дзюдаіст са Смаргоні не паедзе на Алімпіяду

Смаргонскі дзюдаіст **Аляксандр Вахавяк** не паедзе на Алімпіяду ў Токіа, паведамляе «Трыбуна» са спасылкай на зборную ЗЛЖ.

Вахавяк траўмаваўся падчас удзелу ў апошнім кваліфікацыйным матчы Вялікага Шлема. З-за траўмы рукі ён не змог удзельнічаць у чэмпіянаце свету. Да яго Вахавяк трапляў на Алімпійскія гульні па квоце.

– Да чэмпіянату свету **Мікіта Свірыд** быў на прамой ліцэнзіі, але пасля яго змясцілі. Змясціўся ў рэйтынгу і я. Таму на Алімпійскія гульні я не еду, – сказаў Вахавяк.

**Паводле «Трыбуны».**




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. У 1965 годзе доктар Стэфані Кволек вынайшла звышшчыльны матэрыял кеўлар. Гэта адкрыццё адразу ацанілі паліцэйскія і ваенныя. А неўзабаве вынайшлі гэту частку экіпіроўкі.
5. Спартыўны бег або гонкі па перасечанай мясцовасці з пераадоленнем перашкод.
8. Гранічна блізка; непасрэдна прымыкаючы, датыкаючыся.
11. Лісцевае дрэва з белай карой.
12. Механічная прылада для апрацоўкі металаў пры дапамозе ціску.
13. Род мастацтва, у якім жыццё адлюстроўваецца праз драматычнае дзеянне, ажыццёўленае акцёрамі перад гледачом.
15. Неадлучнае дзяжурства па ахове бяспекі на суднах.
17. Прадмет кухоннага ўжытку – металічная пласцінка з дзіркамі, якая служыць для раздраблення, расцірання.
21. Скрыўленне ў каленях пярэдніх ног каня, прыроджанае або траўматычнае.
22. Свяцільнік з абажурам на высокай падстаўцы, якая ставіцца на падлогу.
23. Становішча, пры якім ніхто і нішто не пагражае.
25. Сукупнасць прыкмет, характэрных для якога-небудзь грамадскага разраду, тыпу людзей.
27. Злепак, мадэль прадмета ў натуральную велічыню.
28. Металічны пруток або ланцуг з цяжарам на канцы, які мерна вагаецца з боку ў бок у падвешаным стане.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Металічная ці бетонная скрыня або адсек для часовага захоўвання збожжа, вугалю ці якіх-небудзь іншых сыпкіх рэчываў і матэрыялаў.
2. У 19 стагоддзі ў адным з этрускіх пахаванняў археолагі знайшлі выяву васьміпромневай зоркі з геральдычнай ліліяй на адным з промняў. Гэта дало падставы географам меркаваць, што этрускам было вядомае гэтае прыстасаванне.
3. Прыстасаванне ў паравозе, вагоне, аўтамабілі для паслаблення сілы ўдару, штуршка пры сутыкненні.
4. Хуткі і бесперапынны рух у розных напрамках.
6. Апавядальны твор вуснай народнай творчасці або літаратурны твор аб выдуманых падзеях, нярэдка з удзелам чарадзейнай, фантастычнай сілы.
7. Камфортна і зручна.
9. Урачыста павіншаваць каго-небудзь у сувязі з пэўнай падзеяй.
10. Службовая асоба, якая выконвае свае абавязкі фармальна, не ўнікаючы ў сутнасць справы.
14. Зямельная плошча, адведзеная для выкарыстання або вылучаная на аснове якіх-небудзь прыкмет.
16. Чарльз Дзікенс быў упэўнены, што ў сне цела павінна быць размешчанае па сілавых лініях магнітнага поля Зямлі. Таму заўсёды паварочваў ложак галавой у гэты бок.
18. Беларускі пісьменнік, які з'яўляецца аўтарам гімна Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта.
19. Асаблівасці будовы цвёрдага рэчыва, абумоўленыя характарам размяшчэння яго састаўных частак (крышталяў, зерняў, слаёў).
20. Дыяметр канала ствала агнястрэльнай зброі.
24. Лопасць з доўгім дзяржаннем, прызначаная для перамяшчэння ў лодцы.
26. Часовы палітычны або ваенны саюз дзяржаў для сумесных дзеянняў на міжнароднай арэне.

## Адказы на крыжаванку з №26

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Камандзір. 4. Капсула. 6. Крыж. 9. Глыток. 10. Марна. 11. Конкурс. 12. Вынік. 15. Метка. 17. Гітара. 18. Вузкі. 22. Ракурс. 24. Дыпламат. 25. Госць.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Рэгрэс. 3. Мыла. 5. Маланка. 7. Рэаліст. 8. Рулон. 12. Віск. 13. Рывок. 14. Гурток. 16. Нос. 17. Гераізм. 19. Удалечыні. 20. Свабоды. 21. Каларыст. 23. Казус. 26. Мазь.

## ● ГАРАСКОП НА 2-8 ЛІПЕНЯ



**АВЕН.** У цэнтры ўвагі ў гэты перыяд будуць адносіны з калегамі, кіраўніцтвам і ўсімі тымі, хто стаіць вышэй за вас па ўзросце або становішчы. Пажадана адмовіцца ад ініцыятыў у тых пытаннях, якія ляжаць па-за зонай вашай кампетэнцыі.



**ЦЯЛЕЦ.** Гараскоп раіць звярнуць увагу на здароўе. Выключыце фізічныя нагрузкі, пазбягайце ўсяго, што хвалюе і парушае душэўны камфорт. Псіхалагічную дапамогу і падтрымку ва ўсіх пачынаннях акажуць родныя людзі.



**БЛІЗНЯТЫ.** Галоўныя падзеі гэтага тыдня разгорнуцца на працы. Усё, чаго жадаеце, споўніцца па першым патрабаванні. Паспрабуйце з розумам распарадзіцца гэтым дарам. Не жадайце занадта шмат.



**РАК.** Лёсавызначальных перамен не чакаецца, але тое, што адбудзецца ў гэтыя дні, прымусіць вас задумацца. Прычынай стане нечаканае прызнанне каханага чалавека ці ўчынак дзіцяці.



**ЛЕЎ.** Чакаецца творчы ва ўсіх сэнсах перыяд. Вы літаральна будзеце купацца ў любові родных людзей, сяброў і сябровак. І ўсё гэта дапаможа вам паспяхова справіцца з цяжкімі задачамі, якія прыйдзецца вырашаць на працы.



**ДЗЕВА.** Энергіі будзе шмат, і каб адчуваць сябе ў выдатнай форме, яе абавязкова трэба выкарыстоўваць па прызначэнні. Добра было б заняцца рашэннем сямейных пытанняў, якія адкладаліся да лепшых часоў.



**ШАЛІ.** Паспрабуйце жыць тут і цяпер. Нічога не плануйце на гэты тыдзень, паколькі планы могуць часта змяняцца па не залежных ад вас прычынах. Толькі не забывайце адпачываць! Папесціце сябе заняткамі, якія расслабляюць.



**СКАРПІЁН.** Поспех ва ўсіх сферах жыцця цяпер шмат у чым залежыць ад вашай актыўнасці. Таму дзейнічайце! Не бойцеся памыліцца і трапіць міма мэты. Выдатны час, каб паказаць сябе напоўніцу і на працы, і ў каханні.



**СТРАЛЕЦ.** Грандыёзных рабочых планаў не будуйце, трымайце бяспечную дыстанцыю ў адносінах з каханымі і сябрамі. Лепш за ўсё ў гэты час заняцца сабой, сваім фізічным і душэўным здароўем.



**КАЗЯРОГ.** Дэвіз будучага тыдня: «Рызыка – высакародная справа». У вас будуць выдатныя шанцы на поспех ва ўсім, што б вы ні задумалі. Чакаюцца лёсавызначальныя перамены, якія закрануць фінансы, каханне і сяброўства. Праўда, прыйдзецца перагледзець некаторыя перакананні.



**ВАДАЛЕЙ.** Неспакойны і клапотны час. Верагодна, на адной шалі вагаў апынуцца кар'ера і сацыяльны поспех, а на другой – каханне і сямейны дабрабыт. Прыйдзецца аддаць нечаму перавагу. У прыняцці рашэнняў абапірайцеся на тое, што падказвае сэрца.



**РЫБЫ.** Добры перыяд для паспяховых пачынанняў, асабліва ў прафесійнай і фінансавай сферах. Аднак для гэтага ва ўсіх справах вам трэба стаць рулявым, спадзявацца выключна на сябе.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | | | | | | | 9 | 3 |
| | | 4 | 2 | | | 7 | 6 | |
| | 3 | 7 | | | | 4 | | |
| | | | 1 | 3 | | 5 | | |
| | | | 8 | | 9 | 3 | 4 | |
| 5 | 9 | | | | | 2 | | |
| 2 | | | | 8 | 1 | | | |
| | 5 | | | 4 | | | | 1 |
| | 7 | | 5 | | 6 | 9 | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

# Рэгіянальная газета. Rh.by




## Ад 23 ліпеня зменяць правілы выдачы і афармлення бальнічных

**Міністэрства аховы здароўя і Міністэрства працы і сацыяльнай абароны насельніцтва ўнеслі змены ў Інструкцыю аб парадку выдачы і афармлення лісткоў непрацаздольнасці і даведак аб часовай непрацаздольнасці.**



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Некаторыя моманты, якія прапісалі ў дакуменце, ужо і так прымяняюцца на практыцы, іншыя ж толькі ўводзяць.

У Інструкцыю дапоўнілі пункт, што калі чалавек, які знаходзіцца на бальнічным, атрымае яшчэ і бытавую траўму або захварэе на COVID-19, то ў такім выпадку яму павінны адкрываць новы бальнічны. Гэта можа быць крытычным момантам у сітуацыі, калі бальнічны зацягнецца з-за працяглага лячэння. Справа ў тым, што ў Беларусі існуе максімальны тэрмін, на які выдаецца бальнічны – 120 каляндарных дзён бесперапынна.

Бальнічныя па цяжарнасці і родах могуць адкрыць у тым ліку ў стацыянары. У дзеючай цяпер інструкцыі пазначана, што гэта можна зрабіць у медустанове, у якой жанчына знаходзіцца пад наглядам.

З'явіўся новы пункт аб несвоечасовай яўцы пацыента на прыём да доктара. У інструкцыі прапісалі, што ў такім выпадку далейшае афармленне бальнічнага будуць праводзіць з дня фактычнай яўкі хворага.

Змены пачнуць працаваць з 23 ліпеня.

**Паводле TUT.BY.**

## Чытайце праз тыдзень:

- Чаму паэту і палітыку Уладзіміру Някляеву і сёння балюча прыгадваць сваё першае каханне. Як на першы верш будучага паэта натхніла паварыха ў летніку. І чаму Някляеў святкуе два дні народзінаў. Гутарым з творчым земляком з нагоды юбілею.

## 3 ліпеня, субота

**Вецер:** паўночна-ўсходні, 7 м/с




Паводле rp5.by.

## Падпіска на «Рэгіянальную газету» не спыняецца!

**Каб быць у курсе навін рэгіёна, чытаць жыццёвыя гісторыі і кожны тыдзень даведвацца нешта новае пра мінулае нашага Павілля, вам не трэба будзе хадзіць па «Рэгіянальную газету» штопятніцы, каб купляць у розніцы.**

**Газету з аб'ектыўнай інфармацыяй на роднай мове прынясуць у паштовую скрыню.**

### Падпісацца на «РГ» можна заўжды:

- **праз сайт «Белпошты»**



Зарэгіструйцеся на сайце **belpost.by.** У асабістым кабінеце карыстальніка дадайце ваш адрас, а пасля зайдзіце ў акно «Інтэрнэт-падпіска», абярыце «Да каталогу». У акне «Пошук па выданнях» увядзіце назву нашай газеты ці індэкс 63212. Цісніце на спасылку «Рэгіянальнай газеты», якая з'явіцца. Або адсканіруйце QR-код.

У меню абярыце індывідуальную ці ведамасную падпіску, перыяд выпіскі выдання.

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі**, рублёў:

- на месяц – 5.50 / 4.11 (з дастаўкай на адрас падпісчыка / на абаненцкую скрыню або да запатрабавання);
- на квартал – 16.50 / 12.33.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 19 / 17.33;
- на квартал – 57 / 51.99.

**ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:** *63212 (індывідуальная)* *632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## Што вы плануеце паспець зрабіць за гэта лета?

Мінуў першы месяц лета. «Рэгіянальная газета» вырашыла даведацца ў чытачоў у інтэрнэт-апытанні, што яны плануюць паспець зрабіць за ліпень і жнівень.



**Ніна:**
– Даваць адпачынкі сваім калегам.



**Алег:**
– Рамонт у кватэры. Спадзяюся, што паспею.



**Ганна:**
– Працягваць лячэнне сваёй дачкі. Мы аднаўляемся тры гады пасля аперацыі.



**Ігар:**
– Хачу знайсці працу і разлічыцца з даўгамі.



**Алена:**
– За лета я планую паспець адпачыць, пагрэцца на сонцы, з'ездзіць у дзве-тры вандроўкі па Беларусі.



**Любава:**
– Не захварэць самой, усім блізкім і сябрам, і ўвогуле ўсім людзям. Схадзіць спакойна ў адпачынак з добрай надзеяй на тое, што да восені скончыцца тое вар'яцтва, якое цяпер творыцца вакол нашай краіны і ў свеце.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**




Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№27 (1366) 2.07.2021. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1102. Падпісана ў друк у 9.00 1.07.2021.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.